## ЛУКАШЭНКА АБВІНАВАЧВАЕ ПАРЛАМЕНТ БЕЛАРУСІ Ў СПРОБЕ ЎЦЯГНУЦЬ ЯГО Ў КАНФРАНТАЦЫЮ І НАСТОЙВАЕ НА ПРАВЯДЗЕННІ РЭФЕРЭНДУМУ ПА КАНСТЫТУЦЫІ 7 ЛІСТАПАДА

СТОЛІН. 9 верасня. ИНТЕРФАКС-ЗАПАД. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў парламент краіны ў спробе «ўцягнуць кіраўніка дзяржавы ў чарговую бойку і справакаваць на сілавыя крокі».

Так у інтэрв'ю «Интерфаксу» ў нядзелю расцаніў Прэзідэнт рашэнне парламента, прынятае 6 верасня, аб назначэнні рэферэндуму па абноўленаму тэксту Канстытуцыі краіны на 24 лістапада, а не на 7 лістапада, як прапаноўваў сам А. Лукашэнка.

«Яны не могуць зразумець, што пайшлі на відавочнае парушэнне закона і Канстытуцыі», — сказаў А. Лукашэнка.

Разам з тым Прэзідэнт заявіў, што 9 верасня ён паспрабуе «зрабіць яшчэ адну кампрамісную спробу дамовіцца з Вярхоўным Саветам». Паводле слоў А. Лукашэнкі, ён прапануе дэпутацкаму корпусу яшчэ раз вярнуцца да абмеркавання пытання аб даце правядзення плебісцыту і такім чынам «кінуць заняткі палітыканствам».

«Калі нам не ўдасца дамовіцца, напэўна, мне застаецца ісці сваім шляхам», — падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі, адзначыўшы пры гэтым, што «не жадае канфрантацыі, а жадае па-людску вырашыць гэта пытанне».

А. Лукашэнка пры гэтым заявіў, што ў любым выпадку рэферэндум аб прыняцці Канстытуцыі Беларусі адбудзецца 7 лістапада, а не 24 лістапада, як гэтага жадае парламент.

Абноўлены тэкст Асноўнага закона Беларусі прадугледжвае істотнае пашырэнне паўнамоцтваў Прэзідэнта, што было расцэнена многімі дэпутатамі парламента як спроба ўстанавіць у краіне таталітарны рэжым.

## ЛУКАШЭНКА ЗАЯЎЛЯЕ, ШТО БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ «ПРАШЧУПВАЕ» МАГЧЫМАСЦЬ ЗАКУПКІ ЗБРОІ І СТВАРЭННЯ ЎЛАСНАЙ АХОВЫ

СТОЛІН. 9 верасня. ИНТЕРФАКС—ЗАПАД. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што парламент краіны, які стаў на шлях канфрантацыі з Прэзідэнтам, ужо «прашчупвае» магчымасць закупкі зброі, стварэння ўласнай сістэмы аховы.

Аб гэтым кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў у інтэрв'ю «Интерфаксу» ў нядзелю ў горадзе Століне .

Прэзідэнт лічыць, што пэўныя палітычныя сілы ў цяперашнім парламенце Беларусі спрабуюць стварыць «чарговы Белы дом, спробу наладзіць вайну Прэзідэнту».

Па словах А. Лукашэнкі, ён гэтага не дапусціць.

«Я буду рабіць усё для стабілізацыі грамадства, каб не дапусціць вайны», — сказаў Прэзідэнт. Ён лічыць, што крыніцай канфрантацыі з'яўляецца менавіта парламент, а не Прэзідэнт, паколькі дату правядзення рэферэндуму па асновах Канстытуцыі ініцыіраваў сам кіраўнік дзяржавы.

«Нашто мне рабіць крокі, каб страціць гэту ініцыятыву?» — сказаў А. Лукашэнка.



**На расійскім ракетным палігоне Ашулук у Астраханскай вобласці 15-я зенітна-ракетная брыгада і 8-я радыётэхнічная брыгада войскаў ППА Рэспублікі Беларусь упершыню пасля распаду СССР правялі баявыя стрэльбы з зенітна-ракетнага комплексу С-300. Чатырма стрэламі былі збіты тры крылатыя ракеты, што засведчыў міністр абароны нашай краіны генерал-лейтэнант Л. С. Мальцаў, які тут знаходзіўся.**

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**



*ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ*

## СЛЕДСТВА ПА СПРАВЕ ДЫРЭКТАРА ГОМЕЛЬСКАГА ПРАДПРЫЕМСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Як «Звязда» ўжо паведамляла, у мінулы аўторак у сваім кабінеце супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Гомельскага УУС быў выкрыты ў атрыманні 3 тысяч долараў ад маскоўскага прадпрымальніка дырэктар аднаго з буйных гомельскіх прадпрыемстваў. Афіцыйнае абвінавачанне кіраўніку тады не было прад'яўлена: пракуратура і супрацоўнікі АБАЗ заняліся праверкай гэтага факта. Менавіта следства павінна ўстанавіць, ці з'яўляюцца грошы, атрыманыя дырэктарам у кабінеце, хабарам.

На сённяшні дзень канчатковае рашэнне па гэтай справе яшчэ не прынята. Нам удалося высветліць, што следчая група УУС і пракуратуры выехала ў Маскву, каб праверыць дакументацыю расійскай фірмы, якая міжволі стала ўдзельніцай гісторыі. Згодна з наяўнай інфармацыяй, работа над дакументамі (дзелавыя сувязі з гомельскім прадпрыемствам, наяўнасць кантрактаў з ім і інш.) і допыт расійскага прадпрымальніка і павінны вызначыць далейшы лёс дырэктара. Ён, дарэчы, хутчэй за ўсё, стане вядомы калі не сёння, дык заўтра, калі следчая група вернецца з Расіі. Кіраўнік прадпрыемства пакуль знаходзіцца на волі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ЧЫМ БАГАТЫ, ТЫМ І РАДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Хачу зрабіць невялікае адступленне.

Лепш было б, каб такія святы праводзіліся ўсё ж у цэнтральнай частцы Беларусі. Усё ж было б намнога бліжэй ехаць. Калі ж адкінуць гэты момант, то арганізатары мерапрыемства не памыліліся.

Столін — адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Забудовы цэнтра пазбаўлены той хрушчоўскай прымітыўнасці, якая так псуе нашы старажытныя гарады і мястэчкі. Народная культура Палесся надзвычай цэльная і багатая, а гэта наклала свой адбітак на афармленне цэнтра горада. Разнастайныя вышыўкі і ткацтва, вывешаныя ўздоўж тратуараў, стварылі святочны настрой у людзей. Відавочна пад уражаннем усяго гэтага Прэзідэнт сказаў, што «вытокі тут народа беларускага».

У нядзелю, ужо з восьмай гадзіны, адчынілі дзверы крамы і шынкі. Дастаткова было пабачыць прылаўкі, заваленыя вэнджанымі парасятамі, кумпякамі ды рознымі прысмакамі, каб адчуць нейкую нерэалістычнасць быцця.

У свой час камуністы, пры ўсёй тагачаснай схільнасці да паказухі, не маглі нават марыць пра такія горы прадуктаў. Людзі хадзілі і дзівіліся на ўсё гэтае багацце і цэны, у якія залажылі і кошт перавозкі. А чэргі выстройваліся каля машын з прадукцыяй калгасаў. Людзі мяшкамі бралі бульбу па 1500 рублёў за кілаграм ды жыта па дзве тысячы.

Столін — невялікі гарадок і, вядома ж, усяго, што сюды навезлі, «пераварыць» не змог. Для такой колькасці прадукцыі трэба, каб горад быў удвая большы, да ўсяго яшчэ не будзем забываць пра пакупную здольнасць насельніцтва, а яна сёння абмежаваная.

І рэакцыя людзей на ўсё гэта была далёка не адназначная. Правёўшы апытанне, высветліў, што моладзь адносіцца спакойна і прыхільна, ёй падабаюцца такія мерапрыемствы, а вось пенсіянеры ўспрынялі насцярожана... «А для каго гэта ўсё? Вочы бачаць, а што з гэтага?» — гаварылі старыя, пазіраючы на прылаўкі.

У другой палове дня Прэзідэнт А. Лукашэнка 12 лепшым камбайнерам уручыў аўтамашыны — па два чалавекі ад кожнай вобласці. Камбайнеры з Брэстчыны атрымалі «Жыгулі» тут жа. Аўтамабілямі былі ўзнагароджаны і шэсць райвыканкомаў.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Якому суду аддаць перавагу: дзяржаўнаму або мафіі? Яўна спрабуючы пазбегнуць другога варыянта, 33-гадовы жыхар Дубліна Б. Данелі вырашыў пайсці на рызыку — на працягу адных сутак ён абрабаваў пяць магазінаў, прычым... на мыліцах. Кожны раз, пагражаючы пісталетам, ён патрабаваў пакласці яму ў сумку 200 ірландскіх фунтаў. Калі ён усё ж такі папаўся, то выявілася, што ён не змог своечасова вярнуць доўг у 1000 фунтаў і быў збіты мафіёзі так, што мог рухацца толькі на мыліцах. Каб аддаць доўг, ён і пайшоў на рабаванні з перспектывай трапіць на лаву падсудных. Чаму аддаў перавагу, тое і атрымаў.

**ІТАР-ТАСС**

*Сумная працэдура пахавання ўсё часцей падпарадкоўваецца законам моды і камерцыі, а ў маленькай рыбацкай вёсцы ў афрыканскай Рэспубліцы Гане навамодныя тэндэнцыі абрада пахавання набылі і зусім незвычайную форму. Пахавальных спраў майстры прапануюць сваякам памёршых труны ў выглядзе аўтамабіля, незвычайнай рыбы, кнігі і г. д.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Задачу вучоным-генетыкам задала чарнаскурая жыхарка Лондана Мітчэл Гамільтон, якая нарадзіла на свет двух рознакаляровых блізнят — светлую, як Беласнежка, Джолі і чорнага Роберта.

Бацька незвычайных двайнят, барбадоскі негр, лічыць, што дзяўчынка пайшла ў бабулю — маці Мітчэл была белай. Аднак гэта тлумачэнне спецыялістаў не задавальняе. Па-першае, таму, што падобнае змяшанне рас рэдка дае белых нашчадкаў. І, дарэчы, чацвёра іншых, акрамя нованароджаных дзяцей Гамільтонаў, — таксама чарнаскурыя. Па-другое, такая рознакаляровасць у блізнят — і зусім незвычайны выпадак, які навукі пакуль невядомы.

**«Аўрасія».**

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 9 верасня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 5400 | 5510 | | | | | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 17500 | | 11700 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 17350 | 17800 | 11350 | 11750 | 3.05 | 3.15 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 17251<br>5400 | 17650<br>5550 | 11525 | 11983 | 3.15 | 3.27 | 331-917 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 17515 | 17825 | 11752 | 11960 | 3.225 | 3.312 | 342-242 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9821.79 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5356 | | 3606.73 | | 100 бел. р. 29.90 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*



## ФУТБОЛ

### НА ФУТБОЛЬНЫМ ФРОНЦЕ — БЕЗ ЗМЯНЕННЯЎ

Учора матчам «Дынама-93» — «Тарпеда» (Мн) завяршыўся 20-ы тур IV чэмпіянату Беларусі ў вышэйшай лізе. Аб яго выніку мы паведамім у наступным нумары, а напярэдадні ўжо закончыліся сем сустрэч. Першымі выйшлі на поле лідэры першынства — сталічныя дынамаўцы, якія прымалі ў сябе дома магілёўскіх тарпедаўцаў. Гульня прайшла пад дыктоўку чэмпіёнаў, аднак вялікай гульнявой перавагі хапіла толькі на адзін гол. Мінчане выйгралі з лікам 1:0 і па-ранейшаму застаюцца ў верхнім радку турнірнай табліцы.

У спіну лідэру «дыхае» мазырскі МВКЦ. Палескія футбалісты пасля крыўднай нічыёй у папярэднім туры адыграліся на брэсцкіх дынамаўцах. Лік 4:0 сведчыць аб гэтым. У ролі прэтэндэнта на трэцяе месца выступае бабруйская «Белшына». Бабруйчане атрымліваюць трэцюю перамогу запар. На гэты раз перад імі капітуляваў лідскі «Абутнік». Пасля фінальнага свістка на табло «высвечваліся» лічбы 2:1 на карысць гаспадароў. З такім жа лікам салігорскі «Шахцёр» на выездзе нанёс паражэнне «Ведрычу».

Астатнія матчы завяршыліся так: «Атака-Аўра» — «Нёман» — 1:1, «Маладзечна» — «Лакаматыў-96» — 0:4, «Нафтан» — «Днепр» — 2:1

Турнірная табліца пасля 20-га тура:

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 20 | 16 | 3 | 1 | 54-13 | 51 |
| 2. МВКЦ | 20 | 16 | 2 | 2 | 47-12 | 50 |
| 3. Белшына | 20 | 13 | 2 | 5 | 47-24 | 41 |
| 4. Атака-Аўра | 18 | 11 | 4 | 3 | 23-16 | 37 |
| 5. Лакаматыў-96 | 20 | 9 | 8 | 3 | 25-13 | 35 |
| 6. Нафтан | 19 | 10 | 3 | 6 | 31-30 | 33 |
| 7. Дынама-93 | 17 | 9 | 4 | 4 | 23-12 | 31 |
| 8. Маладзечна | 20 | 8 | 5 | 7 | 33-23 | 29 |
| 9. Днепр | 20 | 7 | 4 | 9 | 22-24 | 25 |
| 10. Дынама (Бр) | 20 | 4 | 8 | 8 | 27-29 | 20 |
| 11. Тарпеда (Мн) | 19 | 4 | 5 | 10 | 16-36 | 17 |
| 12. Нёман | 19 | 4 | 5 | 10 | 16-37 | 17 |
| 13. Шахцёр | 20 | 4 | 4 | 12 | 13-36 | 16 |
| 14. Абутнік | 20 | 3 | 4 | 13 | 15-29 | 13 |
| 15. Тарпеда (Мг) | 20 | 2 | 4 | 14 | 18-52 | 10 |
| 16. Ведрыч | 20 | 2 | 3 | 15 | 10-37 | 9 |

Матчы 21-га тура пройдуць 15-16 верасня. Найбольш цікавыя сустрэчы: «Нёман» — «Дынама» (Мн), «Лакаматыў-96» — МВКЦ.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ЗАТРЫМАНЫ МАНЬЯК?..

**Суботняя рыбалка на Сожы для брата і сястры адной сям'і з Гомеля закончылася трагедыяй.**

Мясцовыя «пінкертоны» правялі мінулыя выхадныя неспакойна: надзвычайнае здарэнне, якое ўзбударажыла горад над Сожам, прымусіла супрацоўнікаў гомельскай і добрушскай міліцыі прыкласці ўсе намаганні, каб адшукаць злачынцу, вінаватага ў забойстве і згвалтаванні...

Вучань чацвёртага класа і яго малодшая сястра, першакласніца, у суботу бавілі час на рыбалцы. Вядома ж, ні дрэннае надвор'е, ні адсутнасць улову не маглі сапсаваць настрой дзяцей: яны, як вядома, адрозніваюцца сваёй непасрэднасцю. Горш за ўсё тое, што ў гэты дзень ім не пашчасціла на сустрэчу з незнаёмым мужчынам, сустрэчу, якая стала для іх ракавой. Дзядзечка, які нетаропка наблізіўся да хлопчыка і дзяўчынкі, не напужаў дзяцей. Страх прыйшоў крыху пазней, і ў дзяўчынкі ён, мабыць, застанецца на ўсё жыццё. На яе вачах незнаёмец раптам ператварыўся ў раз'юшанага звера, які забіў яе старэйшага брата, а потым нешта невядомае, але агідна-балючае зрабіў і з ёй самой. Як потым установіць медэкспертыза, маньяк згвалтаваў дзіця і, задаволіўшыся, знік з месца здарэння, зрабіўшы перад тым спробу задушыць дзяўчынку, якая, на шчасце, аказалася няўдалай.

Па трывозе былі ўзняты супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення ўнутраных спраў, РАУС. Па гарачых слядах, па паказаннях людзей, аператыўнікам удалося адшукаць падазраваемага ў гэтым злачынстве. Ім аказаўся 21-гадовы гамяльчанін. Цяпер міліцыя працуе над высвятленнем усіх падрабязнасцей гэтай справы. Наколькі псіхічна здаровым акажацца нелюдзь, над якім вісіць абвінавачанне, таксама ўстановіць следства.

**Ігар ШЧУЧЭНКА, Пётр РАБКАВЕЦ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

Прыкладна толькі **10 працэнтаў** жыхароў рэспублікі можна аднесці да **сярэдняга класа**, **3 працэнты** — да **«новых беларусаў»,** астатнія беларусы трапляюць у **разрад бедных.**

●

У гэтым годзе сапёрамі ўжо **абясшкоджана** 400 адзінак боепрыпасаў.

●

У мінулым годзе ў радзільных дамах **нарадзілі 110 тысяч** нашых суайчынніц, а на аборт рашыліся **85 тысяч жанчын.**

●

Міністэрства фінансаў выдзеліла 1.013 мільёнаў рублёў **на прыборы,** якія будуць **кантраляваць сапраўднасць** знака маркіроўкі і легальнасці тытунёвых вырабаў і спіртных напояў.

●

На сёння **працягваецца тушэнне** 90 лясных і тарфяных пажараў на агульнай плошчы каля 658 гектараў.

●

Да канца года валютныя паступленні **ад міжнародных перавозак** складуць 280 мільёнаў долараў.

●

На працягу аднаго дня ў цэнтры Рыма чалавек **удыхае** столькі ж шкодных рэчываў, якія ўтрымліваюцца ў выхлапе аўтамабіляў, колькі ён атрымаў бы, **выкурыўшы** за гэты час 12 цыгарэт.

●

Дзесятка **самых дарагіх гарадоў** свету для іншаземцаў, якія пастаянна там жывуць, выглядае наступным чынам: Токіо, Асака, Пекін, Шанхай, Ганконг, Масква, Сеул, Жэнева, Цюрых, Сінгапур.

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 33 (52)**

## ГОМЕЛЬСКИЙ ЗАВОД СТРОЙДЕТАЛЕЙ

*Форма оплаты любая.*

предлагает предприятиям и населению высококачественную продукцию собственного производства:

- **БЛОКИ ДВЕРНЫЕ типа ДГ, ДУ, ДО**
- **БЛОКИ ОКОННЫЕ и БАЛКОННЫЕ типа 02Р и Б2Р**
- **ПИЛОМАТЕРИАЛЫ хвойных и лиственных пород — обрезные и необрезные**
- **ДОСКУ для пола**
- **ОБШИВКУ (вагонку)**
- **ПОГОНАЖ (плинтус, наличник)**
- **ТАРУ**

Принимает индивидуальные заказы на изготовление ДАЧНЫХ ДОМИКОВ, САРАЕВ.

***Наш адрес: 246027, г. Гомель, ул. Барыкина, 301.***
***Тел.: 8 (0232) 45-43-79, 45-43-69, факс 45-35-55.***

## СМАРГОНСКІ АГРЭГАТНЫ ЗАВОД

*Тэл./факс (8-01592) 2-29-33*



### ПРАПАНУЕ

- **міні-трактар** МТЗ-082 BS (прывод на 4 колы, рухавік «Briggs & Stratton» бензінавы, 4-тактны, магутнасць 14,5 к.с.)
- **навеска да міні-трактара** (прыцэп аўтамабільны, культыватар, граблі, плуг, барана, акучнік, глебафрэза, сенакасілка, бульбакапальнік)
- **матаблок МТЗ-06** (аднацыліндравы, магутнасць 5 к.с.)
- **матаблок МТЗ-12** (двухцыліндравы, магутнасць 10 к.с.)
- **навеска да матаблока** (прычэп да матаблока, акучнік, счэпка універсальная, плуг, культыватар, барана)

***Зрабіце правільны выбар!!!***



## АГРОТЕХПРОМ

### РЕАЛИЗУЕТ:

- магнитные пускатели (0—6 вел.);
- автоматические выключатели серии АЕ, А, ВА, АП, АК (1-1000 А);
- шкафы управления, рубильники, ящики распределительные, щитки;
- лампы ДРЛ, ПЖ, ЛБ, МО, накаливание 25—200 Вт, стартеры, светильники ПСХ, ЛПО, НСП и др.;
- контакторы КТ (160—630 А);
- реле ПРТЛ, РТТ, РПУ, ТРН;
- провод, кабель (ПВ, АПВ, АВВГ, ВПГ, ВВГ, КГ, РК, ТРП и др.);
- электросчетчики 1-ф, 3-ф, выключатели, розетки, вилки, предохранители ПН-2 (100—630 А), НПН-60, пробки бытовые с колодками;
- настольный вентилятор-обогреватель и др. электротехническую продукцию.

Т./ф. в Минске (0172) 48-70-79.

## ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншую з днём нараджэння **Алену Аляксейчык** з в. Янавічы Клецкага раёна. Жадаю кветкай заставацца ўсё жыццё. Здароўе, радасць — гэта набыццё. Хай непрыемныя турботы сыдуць у цень. Шчаслівай будзь навек і ў гэты дзень.*

**Валерый.**

*Віншую са святам самую прыгожую і абаяльную **Ірыну Фёдараўну Шынкарэнка** з в. Лошніца. Дзякуй за тваё хараство.*

**Сяргей Яцыновіч.**

*Дарагая **Вера Уладзіміраўна Ваўчок**! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і шчасця.*

**Сястра, мама, тата,** в. Нянькава.

*Віншуем з днём нараджэння **Марыю Сямёнаўну Трацяк.** Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.*

**Ірэна, Павел,** г. Смаргонь.

*Горача, сардэчна віншуем з днём нараджэння **Вікторыю Васільеўну Наскевіч.** Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, а таксама радасці і дабрабыту, каб здзейсніліся ўсе твае мары.*

**Сям'я Наскевічаў.**

*Віншуем **Васіля Башарова** з 28-годдзем. Жадаем здароўя, поспехаў, шчасця.*

**Жонка, сын, маці, сям'я Конахавых** з п. Перадавы.

*Дарагіх **Лёню і Марыю Язерскіх** віншую з сярэбраным вяселлем! Шчасця і дабра вам, поспехаў у працы і дабрабыту ў сям'і.*

**Іван Мікітавіч, Валянціна Цярэнцьеўна,** г. п. Кіраўск.

***Усім работнікам газеты «Звязда».** Схіляю сваю галаву за вашу працу дзеля праўды і дабрыні для ўсіх чытачоў. Дзякуй, шаноўныя.*

**З павагай Сяргей Яцыновіч,** г. Мядзел.

## ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Тамару Кавалькову,** супрацоўніцу Мазырскай падатковай інспекцыі. Жадаем моцнага здароўя, радасці і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Родныя,** в. Давыдовічы.

*Віншуем з законным шлюбам **Гену Васілеўскага** (в. Дзягенева) і **Зіну Мізэй** (в. Гіры). Жадаем пранесці каханне праз усё жыццё, захаваўшы чысціню пачуццяў і веру ў будучыню.*

**Сям'я Пілецкіх,** ст. Гудагай.

*Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем дарагую любімую жонку і маці **Наталлю Міхайлаўну Паўлоўскую** з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і працы.*

**Муж, дачка Хрысціна.** с. Акцябр.

*З 50-гадовым юбілеем сардэчна віншуем **Віктара Васільевіча Колтуна** з в. Паплавы!*

Бацька наш — сям'і апора,
Яе нязменны рулявы
Мы і спрачаемся нярэдка,
Але заўсёды і ва ўсім з табой.
Прыклад ты для нас усіх
Калі трэба — пазаві.
Колькі лёс табе адмерыць
Ты ў здароўі пражыві.

**Бацька, жонка, дзеці, унук,**
в. Паплавы Бярэзінскага раёна.

*Дарагая ўнучка **Алеська** з г/п Дружны. Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці і шчасця на ўсё жыццё.*

**Дзядуля і бабуля**
з в. Малеч Бярозаўскага раёна.

## ДВИГАТЕЛИ

### СО СКЛАДА В Г. ВИЛЕЙКА:

**М-2141, М-412** — ДВИГАТЕЛИ (1700 см³, 85 л.с.), ШРУСы-привода, передние аморт.-стойки, ГОЛОВКИ блока цилиндров (в сборе) коленвалы, поршн. группы

**УАЗ** — двигатели, поршн. группы, диски сцепления, шины 8.40x15, мосты, раздатки, КПП, кузов. дет. и др., бол. 200 наим.

**"ГАЗЕЛЬ"** — двигатели, КПП, передн. тормозные колодки

**ГАЗ-53** — крылья, облицовка, карбюратор, опора кардан. вала и др.

Поставляем под заказ з/ч для а/м "Москвич", УАЗ, ГАЗ-24, ГАЗ-53, "Газель"

**ТЕЛ. (01771) 53-517, 53-518**

**ЗАПЧАСТИ**

## ПРАДАЕЦЦА:

- ёмістасць ГЗМ на 1000 літраў, зроблена пад паліўны бак у кузаў. Тэл. у Мазыры 3-71-35.
- Андатра клетачная; дом драўляны ў Ваўкавыску; VW-Пасат, 81 г. в. — 2400 $, растаможаны, тэл. 96-4-14.
- Кунг ваенны; эл. станцыя: 220 в, 1 кВт (пераносная) або мяняю на ЦТ, ВМ. Тэл.: (02158) 21010; 21363.
- А/м «Таўрыя» на запчасткі (пасля аварыі), 600$. Званіць па тэл. у Калінкавіцкім раёне 63-3-50 пасля 18.00. Толю.
- Аднапакаёвая кватэра ў г. Бабруйску. Тэл. у Магілёве 26-38-35.
- Новая 4-пакаёвая кватэра ў пас. Навасады, 12 км ад Барысава; гараж, участак і інш. Тэл. (01777) 70-412.
- Дом у в. Налібокі Стаўбцоўскага раёна з хлявамі, летняй кухняй, гаражом, уч. 0,3 га. Тэл. (272) 55-98-5.
- Аўтамабіль ГАЗ-53 або здаецца ў арэнду, у добрым тэхнічным стане. Званіць пасля 19.00 (8-293) 53-3-16. г. Клецк.
- Амарант, дзівасіл, шпінат, памідоры, меліса. Насенне. Рэцэптура. 222120, Барысаў-1, а/с 417. Насенне.
- «Агра-У», здрабняе грубыя кармы, караняплоды, меле зерне, лушчыць кукурузныя пачаткі. Слонімскі раён, в. Навадзевяткавічы. Тэл. 91-3-93.
- Куплю кампрэсары да халадзільнікаў. г. Слуцк. Тэл. (0-1795) 2-27-10.

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ПРЕДЛАГАЕМ:** | | | |
| Двигатели М-2141, М-412, ГАЗ-24, ГАЗ-53 и др. з/ч. | | | Тел. (0222)-25-00-00. |

## ЗВЯЗДА

### Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-77.**



# Па жыцці з «Цэптэрам»

***Прапануем вашай увазе вытрымкі з пісьма чытачкі «Звязды» магіляўчанкі Ноны Львоўны Успенскай***

***Паважаная рэдакцыя!***

***Мяне прыемна здзівіла ўвага фірмы «Цэптэр» да кліентаў.***

***Я, Успенская Нона Львоўна, жыву ў Магілёве. Справа ў тым, што я люблю гатаваць і заўсёды лічыла, што мая кухні аснашчана нядрэнна. Уменне і жаданне ў мяне ёсць і гэта дазваляе мне гатаваць смачна.***

***Не так даўно прэзентант «Цэптэра» Саіда Касценіч прапанавала мне купіць посуд іх фірмы.***

***Напачатку я была катэгарычна супраць, паколькі я пенсіянерка, хоць працую на паўстаўкі выкладчыкам.***

***Але, набыўшы на прэзентацыі посуд, я пранікласа даверам да гэтай навінкі і заключыла дагавор на набор «Юніёр». Аднак я на гэтым не спынілася і дакупіла пазней іншы посуд фірмы «Цэптэр», чым вельмі задаволена. Мяне, акрамя функцыянальных вартасцей, захапляе дызайн гэтага посуду, і я атрымліваю сапраўднае эстэтычнае задавальненне.***

***Зараз я гатую ў гэтым посудзе, фантазірую і вельмі задаволена. Мяне запрасілі прыняць удзел у конкурсе страў, і я аказалася ў ліку прызёраў, а 12-гадовы ўнук Антон самастойна прыгатаваў жэле.***



***Мой сын, убачыўшы гэты посуд, узяў з мяне прыклад і падарыў жонцы два наборы «Цэптэр» на дзень нараджэння.***

***Да пабачэння. Поспехаў вам у вашай справе.***

***З павагай Нона Львоўна.***

А зараз прапануем рэцэпт прыгатавання піцы ў посудзе «Цэптэр» на камфорцы.

### ПІЦА ПІКАНТНАЯ

**Прадукты**: 1 шклянка смятаны, 1 яйцо, 1/2 чайнай лыжкі соды, 1,5—2 шклянкі мукі, соль, грыбы ў гатовым выглядзе любыя (ці свініна сырая, каўбаса, сасіскі і г.д.), 1 салёны агурок, 4 цыбуліны, 3-4 яйкі вараныя ўкрутую, 3 свежыя памідоры, 100—150 г сыру, зяленіва, спецыі.

**Замясіць цеста**: 1/2 шклянкі смятаны змяшаць з содай, пагашанай воцатам, дабавіць яйцо, дробку солі, муку. Агуркі парэзаць кубікамі, цыбулю і памідоры — кольцамі, яйкі і сыр нацерці на буйной тарцы, грыбы дробна парэзаць (свініну, каўбасу, сасіскі — кубікамі).

**Прыгатаваць соус:** 1/2 шклянкі смятаны змяшаць з грыбной прыправай (для мяса смятану змяшаць з таматным соусам).

Папярэдне разагрэць патэльню (стрэлка на 2/3 сіняга поля), змазаць алеем.

1 слой — раскласці тонкім слоем цеста
2 слой — грыбы (свініна, каўбаса)
3 слой — цыбуля
4 слой — агуркі
5 слой — яйкі
6 слой — памідоры
7 слой — соус
8 слой — зяленіва
9 слой — сыр.

Закрыць накрыўкай. Паставіць на пліту на сярэдні агонь. Калі стрэлка дасягне пачатку зялёнага поля, зменшыць тэмпературу да мінімуму. Калі стрэлка наблізіцца да краю зялёнага поля, патэльню зняць з пліты. Сярэдні час гатавання піцы — 25—30 хвілін.

*«Мы ўсе разам, усім грамадствам павінны абдумаць...»*
**(З паслання Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі «Народу Рэспублікі Беларусь».)**

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!

**Прыняцце Канстытуцыі, асабліва рэферэндумам, справа вельмі сур'ёзная. Таму кожны грамадзянін павінен усвядоміць асабістую адказнасць перад сваімі дзецьмі і ўнукамі, будучымі пакаленнямі, якія ўдзелу ў рэферэндуме не прымаюць, а жыць будуць па законах, напісаных для іх намі. Нам нельга памыліцца, бо выправіць памылку магчыма будзе толькі праз арганізацыю новага рэферэндуму. Па праекту Канстытуцыі раздзелы I, II, IV, VIII, калі яны прыняты шляхам рэферэндуму, не могуць быць перагледжаны парламентам.**

**Мы павінны асэнсаваць і яшчэ адзін факт нашай рэчаіснасці. Большасць з нас не можа пахваліцца вялікай юрыдычнай адукаванасцю, нам цяжка разабрацца ў наступствах тых ці іншых прававых нормаў, замацаваных у Канстытуцыі. Але, тым не менш, голас такога чалавека на рэферэндуме мае аднолькавую вагу з голасам юрыста-акадэміка. Таму ў гэтай сітуацыі адказнасць за лёс дзяржавы ляжыць на кожным з нас у аднолькавай меры. У пасланні Прэзідэнта А. Лукашэнкі «Народу Рэспублікі Беларусь» гаворыцца: «Публікацыя праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі дапускае шырокі ўдзел усіх грамадзян Беларусі: ад рабочага, калгасніка, настаўніка, урача і да дэпутата, міністра і Прэзідэнта ў яго абмеркаванні». Для гэтай мэты рэдакцыя і ўводзіць рубрыку «Думай, народ, думай!»**

**ЧАКАЕМ ВАШЫХ ПІСЬМАЎ І ПРАПАНОЎ.**

## РЭФЕРЭНДУМ, ЛІЧУ, ПАТРЭБНЫ

Азнаёміўшыся з пасланнем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі «Народу Рэспублікі Беларусь» і праектам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі), поўнасцю згодзен з імі. Правядзенне рэферэндуму лічу неабходным, паколькі народ сам павінен прымаць Асноўны закон, па якому яму жыць. Хачу выказаць і свае меркаванні па праекту.

У артыкул 32 пасля чацвёртага абзаца лічу патрэбным дапісаць наступны абзац: «Дзяржава клапоціцца аб сям'і шляхам стварэння і развіцця шырокай сеткі дзіцячых устаноў, арганізацыі і ўдасканалення службы быту і грамадскага харчавання, выплаты дапамог з выпадку нараджэння дзіцяці, прадастаўлення дапамог і льгот мнагадзетным сем'ям, а таксама іншых відаў дапамог сям'і» і далей па тэксту артыкула 32.

Другі абзац артыкула 90 замяніць словамі: «Нацыянальны сход РБ складаецца з 220 дэпутатаў, выбіраемых грамадзянамі РБ. Дэпутатам Нацыянальнага сходу можа быць любы грамадзянін РБ, які валодае выбарчым правам і дасягнуў 21 года.» Няма, на мой погляд, неабходнасці ўводзіць Палату прадстаўнікоў і Сенат. У старажытным Рыме Сенат — адзін з вышэйшых дзяржаўных органаў, у дарэвалюцыйнай Расіі Сенат — прадстаўнічы орган з функцыямі вышэйшай касацыйнай судовай інстанцыі і нагляду за дзяржаўным апаратам, а ў ЗША Сенат — Верхняя палата ў Кангрэсе і г. д. Для якой мэты нам неабходна зайздросціць гэтаму?

**Радзівон ШПЕЦ.**
Вёска Гуркі, Шаркоўшчынскі раён.

## НЕАБХОДНА БОЛЬШ ДАКЛАДНАСЦІ

Праект новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — безумоўна, каштоўны дакумент, які адлюстроўвае важкасць у заканадаўстве працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне.

Але, на вялікі жаль, у праекце новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь шмат агульных фраз, недакладных фармулёвак. У прыватнасці, арт. 42, у якім гаворыцца, што «асобам, працуючым па найму, гарантуецца справядлівая доля ўзнагароджання ў эканамічных выніках працы ў адпаведнасці з яго колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але **не ніжэй узроўню, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і дастойнае існаванне»...** (Падкрэслена мною. — **І. П.**)

На мой погляд, згодна з гэтым тэкстам усе людзі, працуючыя па найму, будуць цалкам забяспечаны і дастойна існаваць нават у тых выпадках, калі будуць ставіцца да працы нядобрасумленна, парушаць працоўную дысцыпліну. Ці тады, калі прадпрыемства ці арганізацыя не змогуць прадаставіць патрэбную работу і своечасова выдаць зарплату.

Чырвонай ніткай праходзіць у гэтым варыянце Канстытуцыі верхавенства Прэзідэнта, што можа прывесці да негатыўных вынікаў.

Няма дакладнасці ў артыкуле 143 гэтага варыянта праекта Канстытуцыі аб працаўладкаванні тых дэпутатаў дзеючага Вярхоўнага Савета, якія не ўвойдуць у састаў Палаты прадстаўнікоў ці Сената.

**Іосіф ПАЖОГА.**

## КАМУ БЫЦЬ УЛАСНІКАМ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ?

Нарэшце праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Уласна кажучы, гэта павінна было адбыцца значна раней, бо менавіта Канстытуцыя павінна прымацца ўсім народам, а не невялікай групай палітыкаў. Але, як кажуць, лепш пазней, чым ніколі...

Перш чым аналізаваць асобныя артыкулы праекта Канстытуцыі, я хацеў бы звярнуць увагу грамадскасці на адну прынцыповую акалічнасць, якая можа завесці ў юрыдычны тупік як стваральнікаў, так і тых, хто будзе затым увасабляць гэтыя палажэнні ў жыццё. Справа ў тым, што на рэферэндуме мы зможам альбо прыняць Канстытуцыю ў цэлым, нават калі з чым-небудзь не згодны, альбо зусім не прыняць. Будзем лічыць, што большасць насельніцтва падтрымала праект. І разам з тым большасць насельніцтва адназначна выказалася супраць перадачы зямлі ў асабістую ўласнасць з правам куплі-продажу і супраць увядзення смяротнага пакарання — гэта значыць па другому і трэцяму пытаннях рэферэндуму. Але гэтым самым яны выкажуцца супраць першага пытання рэферэндуму — праекта, бо там у арт. 13 фактычна дэкларыруецца ўвядзенне прыватнай уласнасці на зямлю і ў арт. 24 — увядзенне смяротнага пакарання.

Было б зразумела, калі б народ, як галоўны суб'ект права, прыняў папраўкі да Канстытуцыі на рэферэндуме, а Вярхоўны Савет, як падначалены орган, затым унёс гэтыя папраўкі ў Канстытуцыю. Але як быць, калі народ на рэферэндуме прымае ўзаемавыключныя рашэнні і на гэтым жа рэферэндуме яны ўвасабляюцца ў жыццё? Якімі крытэрыямі будзе вызначацца прыярытэт таго ці іншага рашэння? Так вось здарыцца і з пытаннямі аб зямлі і аб смяротным пакаранні. **Таму я прапаную на рэферэндуме разгледзець толькі прынцыповыя папраўкі і пытанні Канстытуцыі, а Вярхоўны Савет затым на сесіі разгледзіць вынікі абмеркавання па кожнай з іх і тыя, якія падтрымае народ, унясе ў Канстытуцыю.**

Як бачна з праекта, найбольшым зменам у першым раздзеле падвергнуты артыкул трынаццаты. Там дэкларыруецца, што ўласнасць можа быць дзяржаўнай і прыватнай і што ва ўласнасці дзяржавы знаходзяцца нетры, воды і лясы. Успомнім, што ў Канстытуцыі БССР гаварылася аб дзяржаўнай, калгасна-кааператыўнай і асабістай уласнасці і што галоўнай формай з'яўлялася дзяржаўная. У прыватнасці, адзначалася, што ў выключнай уласнасці дзяржавы знаходзяцца зямля, нетры, воды і лясы.

У рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гэта пытанне зусім абыдзена. І нарэшце, у прапануемым праекце выключана форма ўласнасці — калгасна-кааператыўная. І зямля не з'яўляецца выключнай уласнасцю дзяржавы. А паколькі, акрамя дзяржаўнай, дэкларыруецца толькі прыватная ўласнасць, то зразумела, каму будзе належаць зямля.

У Канстытуцыі БССР былі створаны ўмовы атрымання прыватнай уласнасці — працоўныя даходы. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гэтага няма. Значыць, фактычна прапануецца тэзіс: «узбагачайся, хто як можа». Значыць, атрымаць права на ўласнасць на зямлю можа любы, хто мае грошы, нават набытыя несумленным шляхам. Я тут бачу не прагрэс, а рэгрэс у параўнанні з Канстытуцыяй БССР. Гэта заўвага, скажам так, маральнага плана.

Разгледзім праблему з практычнага боку. У новай сістэме эканамічных адносінаў, дэкларыруемых праектам Канстытуцыі, не застаецца месца калгасам. Сапраўды, калі няма калгасна-кааператыўнай уласнасці, то яны не могуць існаваць на базе дзяржаўнай ці прыватнай уласнасці, становяцца фактычна антыканстытуцыйнымі аб'яднаннямі і іх трэба тэрмінова разагнаць альбо перавесці ў акцыянерныя таварыствы. А між тым калгасная форма вытворчасці пры правільным кіраўніцтве сябе далёка не вычарпала. Не трэба забываць, што яшчэ ў 1990 г. Беларусь атрымлівала на 100 га сельгасугоддзяў 792 ц малака і 125 ц мяса, у той час як ЗША — адпаведна 168 і 77 ц. Па вытворчасці на душу насельніцтва збожжа Беларусь уступала толькі Амерыцы і Францыі, мяса — толькі ЗША, але малака атрымлівала больш, чым іншыя развітыя краіны. Іншая справа, што ў ЗША, Канадзе і іншых краінах з-за шэрага гістарычных фактараў на працягу стагоддзяў узрастала энергазабеспячэнне сельскай гаспадаркі, і роля дзяржаўнай датацыі гэтай галіны там дасягае зараз 50—70 працэнтаў ад атрыманай прадукцыі.

Перавесці калгасы ў акцыянерныя таварыствы? Але гэтым прынцыпова мяняецца іх сутнасць. Людзі ўносяць свой пай, акцыі, грошы і атрымліваюць даходы не ў адпаведнасці са сваёй працай, а згодна з колькасцю акцый ці ўнесеных грошай. Інакш кажучы, акцыяніраванне — гэта не што іншае, як мяккая форма прыватызацыі. Кожны акцыянер мае права прадаць свае акцыі ці набыць іх большую колькасць за грошы. Такім чынам, махляр, які мае шмат грошай, укладзе іх у той ці іншы кааператыў і будзе атрымліваць стабільны прыбытак, у той час як іншыя будуць на яго працаваць. Чым гэта адрозніваецца ад панскага прыгнёту? Ці будзе гэта справядлівым у адносінах да сельскіх працаўнікоў?

Калі на Вярхоўным Савеце прымаўся Закон аб прыватнай ўласнасці на зямлю, у якасці аргумента прыхільнікі прыватызацыі зноў прапанавалі прыклад эканамічнай палітыкі ў трыццатыя гады, калі быццам бы зямля была перададзена сялянам і яны хутка накармілі краіну. Я хацеў бы нагадаць тым, хто не вельмі добра ведае гісторыю, што ў часы НЭПа зямля была перададзена сялянам у карыстанне, а не ў валоданне, як, дарэчы, і ў часы савецкай улады прысядзібныя ўчасткі. І нічога, гэта не адбілася дрэнна на эфектыўнасці вытворчасці. З другога боку, перадача зямлі ў прыватныя рукі зусім не гарантуе аўтаматычна вырашэнне ўсіх праблем. Практыка гэта ўжо паказала. У гэтым выпадку адно толькі дакладна зразумела: гэта аблегчыць махлярам і спекулянтам «адмываць» свае ценявыя капіталы.

**Таму я прапаную ў новай рэдакцыі Канстытуцыі, па-першае, дакладна агаварыць, што зямля застаецца ў выключнай уласнасці дзяржавы, па-другое, акрамя дзяржаўнай і прыватнай, захаваць паняцце калгасна-кааператыўнай уласнасці.**

Паняцце калгасна-кааператыўнай уласнасці зусім не супярэчыць логіцы, як гэта спрабавалі даказаць у Вярхоўным Савеце пры абмеркаванні новай Канстытуцыі Беларусі. Дзяржава толькі з'яўляецца калектыўным уласнікам зямлі і іншых сродкаў вытворчасці ў маштабе рэспублікі, гэтак жа як калгас з'яўляецца адпаведным калектыўным уласнікам у маштабе некалькіх вёсак.

**Дзмітрый МІКАЛАЕЎ.**
г. Мінск.

## УЛАДА АДНОЙ АСОБЫ ШЧАСЦЯ КРАІНЕ НЕ ПРЫНЯСЕ

Уся ўлада — народу? Не!

Уся ўлада Саветам? Не!

Уся ўлада — Прэзідэнту! Менавіта так сцвярджае праект Канстытуцыі, апублікаваны 31 жніўня гэтага года.

Я маю вопыт у палітыцы. Бываў на чале саюзных дэлегацый у многіх краінах усіх кантынентаў. Зразумела, напярэдадні кожнай паездкі даводзіцца вывучаць палітычны лад краіны, яе Канстытуцыю.

Канстытуцыя — гэта твар дзяржавы, яе аўтарытэт у свеце. Сустракаўся і вёў перамовы з Пін준этам (Чылі), Сукарна (Інданезія), лідэрамі арабскіх краін Персідскага заліва. Пра гэтыя краіны ў нас сфарміравана грамадская думка, быццам менавіта там дыктатура. Але магу сцвярджаць, што гэта не зусім так. Учора, перагортваючы свае архівы, я ў гэтым яшчэ раз цвёрда пераканаўся. Параўноўваў тое, што ёсць у свеце, з тым «творением», якое прадставіў народу пан Лукашэнка. Не ведаю, магу толькі меркаваць, хто пісаў гэтую Канстытуцыю. Няхай гэта будзе на іх сумленні. Гісторыя з часам назаве сваіх герояў. Гэтая фраза напісана менавіта для іх.

Разгледзім некалькі сюжэтаў з праекта прэзідэнцкай Канстытуцыі. Пры гэтым будзем мець на ўвазе, што ў адпаведнасці з «праектам» у так званы «сенат» Прэзідэнт па сваёй асабістай волі назначае (а значыцца і вызваляе) трэцюю частку дэпутатаў. Астатнія дзве трэці назначаюцца абласнымі Саветамі. Пры гэтым, зразумела, і сярод апошніх будуць людзі «вертыкалі», а значыцца і Прэзідэнта. Так што з поўнай гарантыяй можна сцвярджаць, што больш як трэцяя частка «сената» — гэта людзі Прэзідэнта. А цяпер паспрабуем адказаць на пытанне: а што не можа зрабіць Прэзідэнт самастойна, самадзяржаўна?

У яго руках практычна ўсё. Тое, што ляжыць у яго «ў кішэні», — гэта мы высветлілі. Значыцца, згода сената па любых прапановах гарантавана нават у тым выпадку, калі для гэтага патрэбна палова галасоў. А сенат жа можа заблакіраваць паловай галасоў любы закон, прыняты ніжняй палатай. Але ж ёсць і другі бок — подпіс Закона Прэзідэнтам. А яго нязгоду можна пераадолець толькі дзвюма трэцямі галасоў абедзвюх палат. Нагадаем яшчэ раз, што як мінімум адна трэць у сенаце — гэта людзі Прэзідэнта.

Так што ні адзін закон без яго волі прыняты быць не можа.

Што датычыцца змяненняў Канстытуцыі, дык тут закладзены яшчэ больш складаны механізм. Рашэнне будзе лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала не менш як тры чвэрці ад поўнага саставу кожнай з палат парламента. Нагадаю яшчэ раз, што як мінімум адна трэць «сената» — гэта людзі Прэзідэнта. Так што адамкнуць замок Канстытуцыі, унесці ў яе змяненні можа толькі Прэзідэнт.

Што датычыцца заканатворчай дзейнасці, дык для Прэзідэнта прадугледжаны яшчэ адзін «пралаз». Аўтары выдумалі даўно забыты прававы акт — дэкрэт. Мяркуецца, што ён прымаецца аднаасобна Прэзідэнтам і будзе мець сілу закона. Больш ужо нічога нельга было прыдумаць. Хіба толькі Канстытуцыю з аднаго артыкула. А ва ўсе ж часы народамі, іх мудрацамі, ды і кіраўнікамі ў якасці вышэйшай мэты пасады прымалася спрадвечная праблема маральнасці ўлады.

Цяпер пра кадры. Найважнейшае пытанне. Тут працуе просты прынцып: хто назначае — той і здымае, і ад яго поўная залежнасць. А ўсіх жа службовых асоб, уключаючы раённых адміністратараў і суддзяў, назначае і вызваляе Прэзідэнт. Тысячы пасад у наменклатуры. Хіба можна ўсіх ведаць, кантраляваць іх работу? Зразумела — не. Але затое павесілі над кожнай з іх «дамоклаў меч». Усё гэта параджае боязь і няўхільнае выкананне любых, нават процізаконных, указанняў.

Ці не на гэтай адданасці і страху Прэзідэнт спадзяецца атрымаць перамогу і ў рэферэндуме? Праўда, кандыдатуру прэм'ера пры яго назначэнні прадугледжана ўзгадняць з ніжняй палатай. Але... Калі палата двойчы не згодзіцца з кандыдатурамі Прэзідэнта, дык апошні вольны яе разагнаць.

Так што «добры» прынцып закладзены і тут: «Каго хачу, таго і назначу». Канстытуцыйны суд фактычна ўвесь прэзідэнцкі: старшыня і пяць суддзяў назначае сам Прэзідэнт, а астатніх шэсць — сенат («кішэнная» палата). Дакладна такая ж формула закладзена і ў фарміраванне Цэнтральнай выбарчай камісіі.

Старшыню і членаў Вярхоўнага суда, Генеральнага пракурора, старшыню і членаў праўлення Нацыянальнага банка Прэзідэнт назначае па ўзгадненню з сенатам (яшчэ раз падкрэсліваю — «кішэнная» палата). Рэферэндум назначаецца толькі Прэзідэнтам.

Надзвычайнае становішча ў краіне таксама можа ўвесці аднаасобна Прэзідэнт па сутнасці ў любы час і ў любой сітуацыі. На гэта яму дае права фармулёўка: «пагроза насілля з боку групы асоб і арганізацый».

Што датычыцца вызвалення Прэзідэнта ад пасады, дык палажэнні гэтыя сфармуляваны так, што ажыццявіць іх немагчыма нават, калі ўявіць, што ў палаце прадстаўнікоў будуць усе члены Беларускага народнага фронту. Аўтары тут прыдумалі і новы медыцынскі тэрмін — «стойкая няздольнасць па стану здароўя»... А вянцом «творения» з'яўляецца яе апошні раздзел. «Мудрацы», відаць, доўга думалі, каб схаваць мяркуемы тэрмін паўнамоцтваў Прэзідэнта ў сем гадоў за пяццю гадамі. І прыдумалі. «Новы» тэрмін паўнамоцтваў «старога» Прэзідэнта будзе адлічвацца з дня ўступлення ў сілу «новай» Канстытуцыі!

Што датычыцца фарміравання палат парламента. Трэць «сената» (21 дэпутат) Прэзідэнт адвольна і асабіста назначае. Астатнюю частку сената (42 дэпутаты) і ніжнюю палату (110 дэпутатаў) прадугледжваецца сфарміраваць з ліку дэпутатаў цяперашняга Вярхоўнага Савета. І зрабіць гэта прапаноўваецца Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету. Па-першае, па колькасці яўная нестыкоўка. Трэба будзе пазбавіцца ад дзесяткаў дэпутатаў. А ад каго? Тут жа закранаюцца не толькі асабістыя інтарэсы дэпутатаў, але і інтарэсы выбаршчыкаў.

Ясна, што Прэзідэнт будзе настойваць на тым, каб вызваліцца ад сваіх праціўнікаў. Парламент будзе супраціўляцца. Узнікне канфлікт. Гэты варыянт аўтары праекта прадугледзелі. Тады «стары» Прэзідэнт распускае «стары» парламент і назначае новыя выбары.

Такім чынам, прапановы Прэзідэнта ўскосным чынам мяняюць палітычную і дзяржаўную сістэму грамадства, і ў выпадку іх прыняцця на рэферэндуме ў Беларусі будзе ўстаноўлена абсалютная дыктатура з усімі адсюль наступствамі.

**Георгій ТАРАЗЕВІЧ.**

# «Сакрэты» Васіля Барабаша

**Вядома, што многія прадпрыемствы, у тым ліку будаўнічага комплексу, цяпер у глыбокім крызісе. Няма працы, людзі месяцамі атрымліваюць жабрацкі заробак альбо накіроўваюцца ў вымушаны адпачынак. У некаторых будаўнічых трэстах аб'ёмы работ за апошнія гады зменшыліся ў тры, чатыры, а то і пяць разоў. А вось у гродзенскім упраўленні трэста «Белцеплаізаляцыя» сёлета, наадварот, прынялі ў штат 11 новых рабочых, каб выканаць усе заяўкі кліентаў. Работы хапае, затрымак з выплатай зарплаты не бывае. Што ж гэта за сакрэты, якія адрозніваюць гэты калектыў ад многіх іншых? З такога пытання пачалася гутарка карэспандэнта «Звязды» з Васілём БАРАБАШАМ, які вось ужо 23 гады ўзначальвае ўпраўленне.**

— Мы застаёмся галоўнай, можна сказаць, адзінай арганізацыяй у вобласці, якая кваліфікавана выконвае цеплаізаляцыйныя работы. Сур'ёзнага канкурэнта ў нас няма. Былі спробы стварыць тут самастойныя ўчасткі, ёсць брыгада ізаліроўшчыкаў на адным з прадпрыемстваў. Аднак, не маючы базы, абсталявання, дастатковай кваліфікацыі, яна выконвае самыя прымітыўныя работы.

Канкурэнтаздольнымі мы застаёмся па некалькіх прычынах. Па-першае, мы ўмеем выконваць усе работы, як гаворыцца, ад і да — халадзільную, цеплавую ізаляцыю, на любой вышыні, любой складанасці, выкарыстоўваючы метал самай рознай канфігурацыі. Але самае галоўнае — наша праца каштуе танней, чым у іншых упраўленнях. За кошт чаго? Па-першае, мы ніколі не наганялі вялікую зарплату. Я лічу, што свабода дзеянняў ап'яніла і загубіла многіх кіраўнікоў. Раней удзельная вага зарплаты была 8 працэнтаў ад выкананых аб'ёмаў, цяпер пачалі хапаць па 30 працэнтаў, г. зн. сталі займацца самаз'яданнем. І каб неяк выкручвацца, пачалі ўзнімаць кошт ізаляцыйных работ. А заказчыкі паступова навучыліся лічыць свае грошы. У выніку, напрыклад, на магілёўскім «Лаўсане» ніводны ізаліроўшчык тутэйшага упраўлення не працуе — прагналі з-за дарагоўлі работ. На Салігорскім калійным камбінаце таксама адмовіліся ад паслуг мясцовых спецыялістаў. У Пінску нават генпадрадчыкі адмовіліся ад брэсцкіх ізаліроўшчыкаў, зноў жа з-за неразумнага накручвання цэн.

Другое. Некаторыя матэрыялы мы тут, у Гродне, вырабляем самі, чаго не робяць іншыя. Напрыклад, шклапластыкі. Яны вырабляюцца на ўстаноўцы нашай уласнай вытворчасці. Мала таго, на мясцовай сыравіне, паколькі замест шклотканіны прымяняем капронавую тканіну гродзенскага аб'яднання «Хімвалакно». Атрымліваем яе за грошы, зробленыя там жа на капрамонце. Аналагічны разлік з лідскім аб'яднаннем «Лакафарба» — за выкананую работу бяром лак для апрацоўкі вышэйпамянёнай тканіны. У выніку маем усё сваё, заробленае. Толькі пару бралі на іншым прадпрыемстве, але нядаўна разжыліся на ўласны кацёл і цяпер пара ў нас свая. Што ж атрымліваецца? Наша патрэбнасць у гэтай тканіне — 10 тысяч «квадратаў» у месяц. У Полацку за гэта па сённяшніх расцэнках трэба аддаць 170 мільёнаў, прычым аплата папярэдняя. А нам гэтыя грошы шукаць не трэба, мы іх элементарна зарабляем.

Далей. Мы самі наладзілі пашыў ізаляцыйных пакетаў са спецыяльнай тканіны. У выніку не трэба траціцца на транспарт, каб даставіць іх з Мінска, што дае нам як мінімум 10-працэнтную эканомію. Нашы пакеты значна таннейшыя, чым у іншых. Гэта яшчэ адзін элемент канкурэнтаздольнасці.

**— Васіль Іванавіч, вы гаворыце, што ніколі не наганялі вялікую зарплату. Але ж менавіта яна для рабочых і служачых — галоўнае.**

— Вось загад па ўпраўленню да Дня будаўніка. Сярэдні заробак сёлета склаў 1 мільн 651 тысячу рублёў — гэта на 43 працэнты больш у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года. Хто адпрацаваў ва ўпраўленні 25 гадоў, атрымаў з нагоды прафесійнальнага свята 1 мільён рублёў прэміі, хто 20 гадоў — 900 тысяч, а таму, каго прынялі на работу два дні назад, уручылі 200 тысяч. Не забылі і пенсіянераў. На зарплату ўплывае і наступнае. У параўнанні з іншымі ўпраўленнямі трэста ў нас самы маленькі апарат у разліку на аб'ём работ. Увесь штат — з прарабамі, майстрамі, сакратаркай, мной — толькі 20 чалавек. Узамен звольненых новых людзей не прымалі, а пераразмяркоўвалі іх абавязкі, бо зарплата бярэцца з агульнага катла: чым менш забіраюць ІТР, тым больш застаецца рабочым.

На рубель выкананых работ мы сёння маем у 10—13 разоў меншы апарат, чым у некаторых буйных будтрэстах. Скажыце, адкуль жа ў іх будзе зарплата?

А што датычыць затрымак з выплатай заробку, дык нам пра гэта невядома. Летась, праўда, двойчы бралі банкаўскую пазыку, але толькі на тыдзень, каб не нерваваць людзей і выдаць грошы менавіта 12 чысла, як прадугледжана.

**— Неплацяжы моцна дапякаюць?**

— Само сабой. Але і тут шукаем выйсце. Напрыклад, у аб'яднанні «Ваўкавыскцэментшыфер» мы штомесячна выконваем работу на 100 і больш мільёнаў рублёў. Бачым — грошай няма. Але аб'яднанню вінаваты камбінат «Гомельбудматэрыялы», які вырабляе патрэбную нам мінпліту. Вось мы і ставім перад Ваўкавыскам пытанне, каб за яго даўгі Гомель разлічыўся з намі сваёй прадукцыяй. Такім чынам, мы забіраем ізаляцыйны матэрыял з неплацежаздольнага прадпрыемства, дапамагаючы і яму разлічыцца з даўгамі.

**— А як разлічваюцца расійскія заказчыкі? І ўвогуле, ці выгадна працаваць за межамі нашай краіны?**

— Праблемы з разлікамі, вядома, існуюць, але ў цэлым працаваць у Расіі выгадна. Праўда, тады, калі ты не проста аддаеш людзей, а сам бярэшся і выконваеш пэўны комплекс работ. Скажам, мы цяпер будуем у Маскве жылы дом. За сакавік і няпоўны красавік пяць чалавек выканалі работу на 220 мільёнаў расійскіх рублёў. Гэта значна больш, чым можна было б зарабіць у нас.

**— Што ж прыцягвае расіян? У нас што, таннейшая рабочая сіла ці лепшыя спецыялісты?**

— І тое, і другое, да таго ж нашы спецыялісты больш дысцыплінаваныя. Яны едуць у Расію не гуляць, а працаваць. Ім няма куды спяшацца, трэба — працуе падоўжаны дзень, у суботу. І кваліфікацыя нашых спецыялістаў, мабыць, вышэйшая. Дае нам расіянін комплекс работ — і ў яго ніякіх клопатаў няма. Мы, напрыклад, прывезлі ў Маскву ўсе свае матэрыялы, да апошняй шрубы.

**— Ці лёгка ўкараніцца на расійскім рынку працы?**

— У іх ёсць такі тэрмін, што любы аб'ект трэба купляць. Прамым тэкстам гаворыцца, што 5—10 працэнтаў ад каштарыснай вартасці работ трэба аддаць наяўнымі. Пакуль мы з гэтым не звязваліся, але пытанне застаецца. І мы цяпер думаем, ці трэба далей працаваць у Маскве і як усё зрабіць, каб было правільна юрыдычна.

**— Васіль Іванавіч, якім вам бачыцца заўтрашні дзень упраўлення?**

— Веру ў лепшае. Вядома, многае залежыць ад агульнай сітуацыі ў краіне, але перш за ўсё спадзяёмся на ўласныя сілы. Скажам, наладзілі мы сувязі з Ліпецкам і цяпер самі, без пасрэднікаў атрымліваем адтуль ацынкоўку. У выніку на кожным вагоне выйграём 200 і больш мільёнаў рублёў.

**Гутарку вёў**
**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*ПРАБЛЕМА*

# Яблыкі Сікоры на снезе забыцця

Яблык XXI стагоддзя селекцыяніраваны на Віцебшчыне. Праўда, навіна гэтая з добрай «барадой», ёй ледзь не стагоддзе. На пачатку веку атрымаў вучоны-самавучка з вёскі Малыя Алашкі што на Шаркоўшчыне, Іван Сікора цудоўны яблык, прызнаны ў свеце як плод будучага стагоддзя. У гонар віцебскага энтузіяста ён празваны селекцыянерамі свету «памяць Сікоры».

Сад «другога Мічурына», 110-годдзе з дня нараджэння якога адзначана садаводамі і грамадскасцю рэспублікі, налічваў звыш 6 тысяч гібрыдаў пладовых дрэў. Іван Сікора выпрабаваў 500 сартоў агрэсту, 118 формаў фундуку, багацейшыя ў Еўропе калекцыі махровага бэзу і ружаў раслі ў Малых Алашках. Іван Паўлавіч быў шырока вядомым у свеце чалавекам, вёў перапіску з пісьменнікам Леанідам Лявонавым, на магіле Міхаіла Прышвіна пасаджана арэхавае дрэва шаркоўшчынскага селекцыянера, а на Алтаі махровы бэз удзячна называюць «веткай Сікоры».

Было б няпраўдай сцвярджаць, што нашчадкі пагарджаюць памяццю знакамітага земляка. Ёсць нават музей Івана Сікоры на Шаркоўшчыне, даследаваннем жыцця і творчасці яго займаюцца і сёння. Праўда, сад ўжо не той. А унікальная спадчына садавода захавалася хіба што на прысядзібных участках жыхароў блізкіх вёсак ды ў аматарскіх гадавальніках такіх жа, як Іван Паўлавіч, энтузіястаў.

Між тым, ёсць у Беларусі БелНДІ пладаводства, а ў Віцебскай вобласці — навукова-вытворчае аб'яднанне «Сад». БелНДІ ахвотна выдае «рэцэпты», колькі і якіх пладоў і ягад трэба спажываць: 80 кілаграмаў за год, як мінімум, па медыцынскіх нормах. Аднак спажываюць у Беларусі 45 кілаграмаў, тады як у ЗША — 140. І яшчэ ў адзін голас і ў Мінску, і ў Віцебску дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што беларускія яблыкі, асабліва тыя, што растуць у яе паўночнай агракліматычнай зоне, не маюць аналагаў у свеце: такія яны карысныя для здароўя. Сок беларускіх яблыкаў вельмі багаты на вітаміны і кіслоты, добра наталяе смагу і здымае стомленасць. Словам, лепш з'есці яблык з віцебскіх садоў, чым з якіх бы там ні было ў свеце.

Хто б адмовіўся... Аднак на сённяшніх рынках і ў агародніннных аддзелах крамаў перавагу пакупнік хутчэй за ўсё аддасць экзатычным бананам. І не абавязкова ад захаплення іх экзотыкай, а з-за большай, іншым разам, таннасці прывазной заморскай садавіны. У прывазныя трапілі і яблыкі, набіўшы пры гэтым сабе такую цану, што сталі маладаступнымі беларусу з яго нізкай пакупніцкай здольнасцю.

Прыйшлі да таго, вядома, не за адзін дзень. У вобласці 6800 гектараў стараўзроставых садоў, большасці дрэў — па 25—30 гадоў. Ураджайнасць з гектара віцебскія сады даюць мізэрную. Патрэбна абнаўленне, а для таго — гадавальнікі. Аднак наяўныя сортавыпрабавальныя ўчасткі не здольны справіцца з задачай. Уласна, вядомы сёння толькі адзін — Лужаснянскі. Здаецца, перакананыя ў неабходнасці садоўніцтва ёсць, ёсць і жадаючыя заняцца няпростай справай. Аднак прывіваюць у пітомніку пры патрэбе ў 3 мільёны ўсяго 300 тысяч саджанцаў за год. Попыт стварылі дачнікі. І хоць праблему яны не вырашаць, але забяспечыць мясцовыя рынкі ўдосталь мясцовай прадукцыяй маглі б. Словам, згодны на Віцебшчыне спажываць замест бананаў яблыкі сорту «Бананавыя» мясцовай гадоўлі, або хоць бы «Антэй» ці «Алесю». Аднак пакуль што абыходзяцца перахопленай у суседа антонаўкай.

Антонаўку, дарэчы, запрыкмецілі і ў Амерыцы, вядуцца перамовы аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў, а пакуль што сок з яе, атрыманы на зманціраванай па нямецкай тэхналогіі на Глыбоцкім кансервавым заводзе лініі, паступае на дапрацоўку ў Германію, а затым ужо ідзе і за акіян. Прыхільнікі садоўніцтва на Віцебшчыне пайшлі далей, сцвярджаючы, што яблык не толькі смагу наталяе, але і здольны ратаваць беларускую эканоміку. У пошуку галін, якія б маглі стаць прыярытэтнымі, даказваюць яны, садоўніцтва павінна быць на першым плане. Гэта не толькі прыемны занятак, але і надзвычай выгадны: выхад прадукцыі з адзінкі плошчы пад садам самы высокі. Так лічыць, у прыватнасці, кандыдат сельскагаспадарчых навук Міхаіл Шлома. На асабістым участку ў Тулаве, што пад Віцебскам, вырошчвае ён прышчэпы — матэрыял для атрымання садовых саджанцаў, якія раздае садаводам-аматарам. І нястомна даказвае з усіх трыбун аб канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку віцебскіх сартоў яблыкаў — не толькі самых карысных для здароўя, аднак і здольных стаць самымі таннымі. Сапраўды, у адрозненне ад паўднёвых умоў, дрэвы на Віцебшчыне не трэба арашаць, менш даводзіцца змагацца хімічнымі сродкамі са шкоднікамі, з гэтым спраўляецца даволі суровая зіма. Як даказвае Міхаіл Гаўрылавіч, да сеткі гадавальнікаў дадаць хіба яшчэ заходнія тэхналогіі — і Беларусь, у прыватнасці Віцебшчына, маглі б стаць вядучымі экспарцёрамі экалагічна чыстых яблыкаў.

У Міхаіла Шломы шмат аднадумцаў, падзяляюць яго погляд і ў аблсельгасхарчы, нават гатовы аказаць падтрымку, скажам, у арганізацыі рынку збыту саджанцаў. Аднак, каб здзейсніць усе задумы, неабходна дзяржаўная падтрымка, а яшчэ лепш — праграма развіцця галіны на дзяржаўным узроўні. Прычым разгляду заслугоўваюць абодва прапануемыя пры гэтым шляхі развіцця. Адзін з іх — аддаць садоўніцтва на водкуп дачнікам і фермерам, другі — закласці сады-гіганты з перапрацоўчымі комплексамі.

У адзін з іх, які будуецца ў саўгасе «Забалацце» Аршанскага раёна, я і зазірнула. Старшыня райвыканкома Фёдар Мішульскі, які некалі працаваў тут дырэктарам, узяўся быць гідам, і ўразіў-такі. Сад дрэўцаў ростам з невялікага чалавека аб'язджаць давялося на машыне. Нягледзячы на тое, што яблыні, чарэшні, дулі — карлікавыя, займаюць яны вялікую плошчу, пешшу не абысці. Дзялянкі расчэрчаны асфальтаванымі дарогамі. Як дрэвы, так і кусты парэчак, маліны, абляпіхі наскрозь пранізвае сонца — ніводнай лішняй галінкі ці ліста. Саджанцам ад трох да пяці гадоў, і ўсе яны аблеплены ладнымі пладамі.

Вось толькі з перапрацоўкай і захоўваннем ягад і пладоў яшчэ не ўсё ў парадку.

А можа, не трэба і спрачацца, каму расціць сады, няхай бы гэта рабілі ўсе, хто жадае і здольны? А мэтанакіраваную работу з гадавальнікамі, развіццё матачнага саду павінна ўзяць на сябе адзіная на дзяржаўным узроўні служба. Гэта не па сілах ні аматарам, ні асобным, нават буйным, гаспадаркам. І датычыць гэта не толькі яблыкаў, але і іншай садавіны. У Полацку, напрыклад, жыве яшчэ адзін паслядоўнік Івана Сікоры, былы заводскі рабочы, цяпер пенсіянер Іван Трыпук. У сваім грушавым садзе ён накапіў 65 гатункаў. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў аматар разводзіць і прышчэплівае грушы розных сартоў, а свае назіранні занатоўвае. Чаранкі разбіраюць суседзі-аматары, а вось на дзяржаўным узроўні калекцыяй Івана Іванавіча зацікавіліся толькі аднойчы, у Расіі. Па просьбе Арлоўскага навукова-даследчага інстытута селекцыі і сортаразвядзення пладовых культур даслаў туды палачанін сорт народнай селекцыі «свякольны». Гэтыя дулі — так у вобласці называюць грушы — аказаліся ў Нечарназем'і унікальнымі. Сорт, як высветлілі арлаўчане, захаваўся толькі ў Трыпука. Дулі важаць пад 90—120 грамаў, маюць шчыльную сакавітую мякаць бурачковага колеру. Да таго ж устойлівы сорт да маразоў і паршы.

Сікора, Трыпук, Шлома... Не перарываецца ланцужок дзівакоў, якія зрабілі-такі адну важную справу на зямлі: пасадзілі свае сады. Засмучае толькі, што, як на пачатку веку, так і цяпер, могуць застацца іх дзівосныя яблыкі на снезе забыцця, а ў XXI стагоддзе трапяць толькі назвы ды апісанні пладоў, як гэта здарылася з «памяццю Сікоры». Нагадаю: «Смак плода «памяць Сікоры» дзіўны, лупіна тоўстая, захавальнасць надзвычайная. Сікораўскія яблыкі можна закопваць у бурт нават разам з бульбай. І да сярэдзіны лета яны зберагаюць свае лепшыя якасці».

Кажуць, дзе-нідзе ў аматараў яшчэ можна сустрэць «памяць Сікоры»...

**Вольга ШУМІЛІНА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## БЕЛАРУСКІЯ БУДАЎНІКІ ХУТКА БУДУЦЬ УЗВОДЗІЦЬ ЖЫЛЛЁ ДЛЯ ЖЫХАРОЎ ПАЎНОЧНАЙ ЧАСТКІ РАСІІ

**У ліпені бягучага года міністрамі эканомікі Беларусі і Расіі падпісаны пратакол па забеспячэнню інвестыцыйнага супрацоўніцтва дзвюх краін на перыяд да 2000 года. Абодва бакі маюць намер актыўна праводзіць збліжэнне заканадаўчай і нарматыўна-прававой базы ў гэтай галіне, вывучаць магчымыя механізмы ажыццяўлення фінансавання праектаў і праграм за кошт прыцягнення сродкаў прадпрыемстваў і ўстаноў, камерцыйных банкаў і недзяржаўных структур, а таксама міжнародных фінансавых аб'яднанняў і замежных інвестараў.**

Зараз фарміруецца пералік прапаноў па пашырэнню супрацоўніцтва ў сферы будаўніцтва, дзе разглядаецца, напрыклад, пытанне аб стварэнні на базе расійскіх нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў і беларускіх будаўнічых трэстаў міжнацыянальнай асацыяцыі па абуладкаванню раёнаў здабычы нафты і газу. Мяркуецца ўдзел беларускіх будаўнікоў ва ўзвядзенні шэрага аб'ектаў у Калінінградскай вобласці і ў забеспячэнні якасным жыллём жыхароў паўночнай часткі Расіі. На аснове паліраванага шкла вытворчасці аб'яднання «Гомельшкло», гіпсавага вяжучага і вырабаў з яго ўтрыманнем, з дапамогай адходаў Гомельскага хімзавода ёсць магчымасць стварыць сумеснае прадпрыемства шклопанеляў і шклопакетаў.

Таксама маюцца распрацоўкі па ўстаноўцы тунэльных печаў для абпальвання цэглы панельнай канструкцыі, што забяспечвае эканомію паліва ў 1,5—1,7 раза. Плануецца перавод цэментных заводаў з «мокрага» на камбінаваны спосаб вытворчасці новага класа хуткацвярдзеючага цэменту, экалагічна чыстых і негаручых валакністых і цеплаізаляцыйных матэрыялаў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЗАРОБАК ВОСЕННЮ ЛІЧАЦЬ?

На шэрагу беларускіх прадпрыемстваў рабочыя, якія вярнуліся з водпускаў, зноў апынуліся сярод усё тых жа праблем: несвоечасовая выплата заробку, частыя прастоі.Мазаўцы грошай за ліпень, абяцаных дырэктарам яшчэ напрыканцы жніўня, так дасюль і не атрымалі поўнасцю. Усё лунае над МАЗам прывід — бартэр, таму і сродкаў на выплату заробку ўзяць няма адкуль. Суседзі мазаўцаў, завод «Літмаш» (пра які мы, прынамсі, ужо пісалі), дык і зусім апынуўся на краі бездані, імя якой — банкруцтва. Тут адставанне па часе выплаты — цэлае лета. Апошні заробак — майскі. Што далей — можна толькі здагадвацца.

Крыху лепшыя справы па Мінскім маторным: там знайшліся сродкі, і ліпеньскую запазычанасць удалося пагасіць. На чарзе жнівеньская. На ММЗ скардзяцца на дрэнных партнёраў — маўляў, не аддаюць тыя ў час грошай, а некаторыя дык і зусім маўчаць.

Выплату заробку расцягваюць амаль на некалькі месяцаў. Механізм просты: спачатку плацяць так званы пражытачны мінімум (тысяч 500—600), а потым пакрысе аддаюць і астатнія 400—500 тысяч, але ж ужо на працягу наступнага месяца...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# Урокі Атланты-96

**XXVI летнія Алімпійскія гульні ў Атланце сталі здабыткам гісторыі. Аб выніках і ўроках галоўнай спартыўнай падзеі апошніх чатырох гадоў разважаюць намеснік міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Аляксандр ГРЫГАРАЎ і журналіст Анатоль МЯСНІКОЎ**

**— АЛЯКСАНДР УЛАДЗІМІРАВІЧ! Упершыню за стогадовую гісторыю сучасных гульняў Алімпіяды спартсмены Рэспублікі Беларусь прынялі ўдзел у іх самастойнай камандай. Прайшло крыху больш месяца пасля закрыцця спаборніцтваў, страсці і эмоцыі, што называецца, улегліся, і што хацелася б вам сказаць зараз у першую чаргу?..**

— Вядома ж, словы ўдзячнасці 20 беларускім спартсменам, якія заваявалі медалі Алімпійскіх гульняў і па праву ўвайшлі ў эліту атлетаў сусветнага спорту; 48 спартсменам, што занялі 4—8 месцы і ўдастоены дыпломаў; спартсменам, якія паказалі свае лепшыя вынікі, а таксама трэнерам, медыцынскім і арганізацыйным работнікам, усім, хто ў той ці іншай меры меў дачыненне да алімпійскай падрыхтоўкі.

**— Намалюйце, калі ласка, агульны партрэт нацыянальнай зборнай Беларусі.**

— Характарызуючы якасны састаў зборнай, адзначу, што гэта была каманда, якая спалучала вопыт і маладосць. У ёй былі 34 спартсмены, якія ўжо выпрабавалі сябе ў алімпійскіх баталіях, 124 — упершыню прымалі ўдзел у спаборніцтвах такога рангу, з якіх 30 спартсменаў ад 31 года і старэй, 49 — ад 26 да 30 гадоў, 61 — ад 20 да 25, 18 — ад 19 гадоў і маладзей. Сярэдні ўзрост алімпійцаў склаў 25 гадоў. Практычна такі ж быў і ў Барселоне.

33 спартсмены мелі званні заслужаных майстроў спорту, 102 спартсмены — майстры спорту міжнароднага класа і 23 — майстры спорту. Сярод іх — 11 алімпійскіх чэмпіёнаў і 13 чэмпіёнаў свету, 19 чэмпіёнаў Еўропы розных гадоў.

**— Для завяршэння агульнай характарыстыкі яшчэ раз коратка нагадаем вынікі выступлення нашых атлетаў.**

— У выніку 16-дзённай спартыўнай барацьбы 20 беларускіх спартсменаў заваявалі 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных, 8 бронзавых) у 6 відах спорту — гімнастыцы спартыўнай, веславанні акадэмічным, лёгкай атлетыцы, стральбе кулявой, барацьбе грэка-рымскай і барацьбе вольнай. Акрамя таго, яшчэ ў 7 відах спорту: настольным тэнісе, цяжкай атлетыцы, стральбе з лука, барацьбе дзюдо, боксе, веласпорце і мастацкай гімнастыцы — спартсмены прынеслі камандзе заліковыя ачкі за 4—8 месцы.

Па агульнай колькасці медалёў Беларусь заняла 20-е месца ў неафіцыйным камандным заліку, заваяваўшы аднолькавую колькасць медалёў з Вялікабрытаніяй, Бразіліяй і Балгарыяй, пакінуўшы ззаду каманды 177 дзяржаў, якія ў большасці маюць шматгадовы вопыт удзелу ў спаборніцтвах такога ўзроўню, з улікам залатых медалёў у нас 37-е месца, а па алімпійскаму заліку ачкоў за 1—8-я месцы — 18-е.

Па-рознаму можна ставіцца да гэтых вынікаў, але ніхто не будзе адмаўляць, што спорт трывалымі ніцямі звязаны з дабрабытам той ці іншай краіны. Згодна з данымі ААН, Беларусь займае 62-е месца ў свеце па эканамічнаму развіццю, аднак па выніках удзелу ў Алімпійскіх гульнях яна аказалася наперадзе такіх дзяржаў, як Японія, Чэхія, Грэцыя, усіх скандынаўскіх краін, Швейцарыі, Бельгіі, Турцыі і многіх іншых.

Спартсмены Беларусі з годнасцю пранеслі дзяржаўны флаг нашай краіны па алімпійскіх арэнах Атланты. Пацвярджэнне таму — станоўчая ацэнка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, якая была дадзена ім 7 жніўня на сустрэчы з удзельнікамі Алімпійскіх гульняў.

Аднак час бяжыць няўмольна і імкліва, і сёння XXVI летнія Алімпійскія гульні — гэта яшчэ адна гістарычная вяха ў нашай рабоце.

**— Аляксандр Уладзіміравіч! Ведаю, што ў Атланце нашы кіраўнікі спорту, у тым ліку і вы, акрэслілі для сябе тыя тэндэнцыі і накірункі, якія сёння ўплываюць, скажу нават больш — вызначаюць перспектывы развіцця сучаснага спартыўнага руху...**

— Так, Гульні далі шмат падстаў для роздуму, аналізу, разваг. Алімпіяда ў Атланце ў чарговы раз пацвердзіла **вялікую ўстойлівасць спартыўных сістэм, якія апіраюцца на дзяржаўныя структуры,** аб чым сведчаць вынікі каманд ЗША, Германіі, Кітая, Кубы, Паўднёвай Карэі, Іспаніі, Францыі і шэрага іншых краін. У гэтых краінах спорт развіваецца менавіта па дзяржаўных праграмах.

Расце колькасць краін, спартсмены якіх дабіваюцца алімпійскіх узнагарод: у Барселоне іх было 64, у Атланце — ужо 79.

Расшыраецца алімпійская праграма, у якую ўваходзілі ў Барселоне — 257, у Атланце — 271 нумар.

Рашэнне, прынятае ў верасні 1990 г. на сесіі МАК аб удзеле ў Алімпійскіх гульнях прафесіянальных спартсменаў, дало пэўныя перавагі развітым капіталістычным краінам, тым, дзе прафесіянальны спорт культывуецца на працягу значнага перыяду часу.

Яшчэ адна істотная тэндэнцыя, якая моцна ўплывае на развіццё сучаснага сусветнага спартыўнага руху і яго вынікі. Міжнародныя спартыўныя арганізацыі, адначасова са спецыялізаванымі лабараторыямі, узмацнілі допінгавы кантроль. Цяпер кожны атлет можа быць падвергнуты тэсціраванню на допінг у любы час.

Алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету і іншыя буйнейшыя міжнародныя спаборніцтвы ў апошні час прыцягваюць усё больш увагі тэлевізійных кампаній, гандлёва-прамысловых фірмаў, якія маюць вялікі прыбытак ад спонсарскай дзейнасці і рэкламы, вяртаючы адначасова ёй значную частку на далейшае развіццё інфраструктуры сусветнага спорту, выплаты высокіх ганарараў спартсменам, трэнерам і арганізатарам.

Для росту спартыўных дасягненняў усё больш шырока выкарыстоўваюцца навейшыя дасягненні навукі, тэхнікі, медыцыны. На спартыўных аб'ектах ЗША, Германіі, Італіі і іншых краін створаны магутныя навуковыя цэнтры, аснашчаныя самай сучаснай дыягнастычнай і вымяральнай апаратурай.

Асаблівая ўвага пачала ўдзяляцца збалансаванаму харчаванню спартсменаў з шырокім выбарам натуральных прадуктаў, біялагічна актыўных прэпаратаў і штучных бялкова-вітамінных дабавак.

Няспынна ўдасканальваюцца мадэлі спартыўнага інвентару, абсталявання, адзення, абутку, якія даюць прыметную перавагу пры роўным майстэрстве спартсменаў.

Пашырылася практыка сумеснай падрыхтоўкі спартсменаў розных краін, абмен вядучымі трэнерамі, вучонымі і медыкамі.

Хуткаму ўкараненню і распаўсюджанню новых сродкаў і метадаў падрыхтоўкі садзейнічаюць спецыяльныя інфармацыйныя цэнтры, сярод якіх найбольш вядомыя цэнтры ў ЗША, Канадзе, Іспаніі, Германіі і Бельгіі.

**— Ну, а цяпер самы час перайсці да нашых, скажам так, унутраных спраў. Як, якім чынам можна (і трэба!) ацаніць выступленні нашых прадстаўнікоў у асобных відах спорту на Гульнях XXVI Алімпіяды?**

— Менавіта на фоне, намаляваным вышэй, можна і трэба надаць асаблівае значэнне паспяховаму выступленню беларускіх каманд па грэка-рымскай барацьбе (гал. трэнер К. Маджыдаў, дзяржтрэнер А. Новік) і веславанню акадэмічнаму (галоўны трэнер У. Сінельшчыкаў, дзяржтрэнер Г. Гайдук), а таксама У. Дуброўшчыка і Н. Сазановіч — лёгкая атлетыка, І. Басінскага — стральба кулявая, А. Мядзведзева — барацьба вольная, заваяваўшых сярэбраныя медалі; В. Капцюха і Э. Зверавай — лёгкая атлетыка, удастоеных бронзавых медалёў, і, вядома ж, В. Шчэрбы — уладальніка 4 бронзавых узнагарод Алімпіяды ў спартыўнай гімнастыцы.

Хачу адзначыць, што праграма падрыхтоўкі нашых спартсменаў не ўступала лепшым замежным узорам. Акрамя таго, ім, таксама як і ўсім іншым членам нацыянальнай каманды, былі створаны аптымальныя ўмовы для працы.

Стала відавочным і вельмі важным значэнне Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 красавіка «Аб некаторых мерах па падрыхтоўцы беларускіх спартсменаў да Алімпійскіх і Паралімпійскіх гульняў 1996 і 1998 гадоў».

У комплексе ўсё гэта дало магчымасць у цэлым рэалізаваць прынятую ў 1993 годзе Праграму развіцця спорту вышэйшых дасягненняў у Беларусі і падрыхтоўкі спартыўнага рэзерву ў 1993—1996 гг., план арганізацыйных мерапрыемстваў па забеспячэнню ўдзелу беларускіх спартсменаў у XXVI летніх Алімпійскіх гульнях.

**— Які ўклад у алімпійскую скарбонку абласцей і горада Мінска?**

Сярод тэрытарыяльных падраздзяленняў лепшыя паказчыкі маюць: г. Мінск (нач. упраўлення В. Турэйка), у актыве спартсменаў якога адзін залаты, 3 сярэбраныя, 5 асабістых і 3 камандныя бронзавыя медалі; Мінская вобласць (нач. упраўлення М. Шапялевіч) — 2 сярэбраныя, 1 асабісты і 1 камандны бронзавыя медалі; Гродзенская вобласць (нач. упраўлення В. Шніпко) — 2 сярэбраныя і 1 асабісты бронзавы медалі. Затым па медалях ідуць Гомельская, Брэсцкая, Магілёўская вобласці, спартсменам Віцебскай вобласці медалёў заваяваць не ўдалося.

Па-рознаму можна ацэньваць уклад тэрытарыяльных і ведамасных арганізацый у алімпійскую падрыхтоўку, паколькі і задачы перад імі стаялі неадназначныя. Але галоўным застаецца тое, што ў цэлым нам, пры ўсёй складанасці палітычных і сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне, удалося не толькі захаваць, але і ўдасканаліць сістэму кіравання спортам і той набыты спартыўны патэнцыял, які мы маем, на практыцы адчуць заклапочанасць і канкрэтную дапамогу кіраўнікоў на месцах, зацікаўленасць дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый.

**— Якія фактары — аб'ектыўныя і суб'ектыўныя — паўплывалі (як станоўча, так і адмоўна) на арганізацыю падрыхтоўкі і непасрэдна на выступленне нашых алімпійцаў на Гульнях у Атланце?**

— Аналіз прыведзеных вынікаў сведчыць, што цяперашняя сістэма падрыхтоўкі спартыўнага рэзерву ў рэспубліцы дзейсная і працаздольная. І тое, што ў свой час мы не пайшлі па моднаму «рэфарматарскаму» шляху, сёння наглядна пацвердзіла правільнасць прынятага рашэння.

Нягледзячы на складаныя эканамічныя ўмовы апошніх гадоў, у цэлым удалося захаваць патэнцыял для падрыхтоўкі спартыўнага рэзерву, а таксама структурна рэфарміраваць падрыхтоўку спартсменаў высокага класа праз штатныя нацыянальныя каманды.

Разам з тым, нельга не адзначыць шэраг аб'ектыўных фактараў, якія адмоўна ўплываюць на арганізацыю ўсёй работы.

Па-першае, гэта нестабільнае і няпоўнае бягучае фінансаванне як Міністэрства спорту і турызму і яго структурных падраздзяленняў, так і ведамасных арганізацый.

Сур'ёзнай перашкодай стала палітычная нестабільнасць у асобных былых саюзных рэспубліках, што парушыла ўзаемавыгадныя спартыўныя сувязі і не дало магчымасці праводзіць цэнтралізаваную падрыхтоўку на алімпійскіх базах, якія яны атрымалі ў спадчыну ад былога Саюза ССР.

Вельмі істотным адмоўным фактарам можна назваць адток вядучых спецыялістаў за мяжу (толькі з Беларусі за апошні алімпійскі цыкл паехалі 40 спецыялістаў у 7 відах спорту, прычым геаграфія попыту на іх самая разнастайная: ЗША, Іспанія, Францыя, Бразілія, Аўстралія, Англія, Аўстрыя, Расія)... І справа нават не ў тым, што яны не змаглі прыняць удзел у падрыхтоўцы нашых алімпійцаў, а ў тым, што рыхтавалі супраць нас моцных сапернікаў.

**— Вось і падышлі мы, Аляксандр Уладзіміравіч, да самага, скажам так, непрыемнага моманту ў нашай размове — няўдач на Алімпіядзе. Крыўдна, вельмі балюча было назіраць за яўнымі праваламі на галоўным старце чатырохгоддзя, на самых адказных, ганаровых і пачэсных спаборніцтвах, якімі з'яўляюцца Алімпійскія гульні, такіх знакамітых у спартыўным свеце атлетаў, як Аляксандр Курловіч, Наталля Шыколенка, Ігар Астапковіч, Ірына Шылава, Аляксандр Масяйкоў, Дзмітрый Даўгалёнак, Сяргей Калеснік, Алена Рудкоўская, Канстанцін Лукашык, Алена Піскун... Наўрад ці была яшчэ ў Атланце якая-небудзь зборная, у якой на рахунку «зорак» самай першай велічыні столькі правалаў!**

— Паспрабую раскрыць найбольш характэрныя прычыны шэрага нашых паражэнняў на Алімпіядзе. Падкрэслю толькі, што, нягледзячы ні на якія перашкоды, кіраўніцтву Міністэрства спорту і турызму і НАК удалося практычна поўнасцю забяспечыць спартсменаў і трэнераў неабходным календаром вучэбна-трэніровачных збораў і спаборніцтваў, а таксама формай, інвентарам, стварыць добразычлівую атмасферу ў нашым грамадстве ў адносінах да спартсменаў, вырашаючы часам неардынарныя праблемы.

Ніжэй за свае магчымасці выступілі нацыянальныя каманды па боксу, дзюдо, стральбе з лука, настольнаму тэнісу, стральбе кулявой, прыкры зрыў у групавых практыкаваннях і яўна неаб'ектыўнае судзейства не дало магчымасці заваяваць медалі ў мастацкай гімнастыцы. Усяго адным удзельнікам былі прадстаўлены на Алімпіядзе спартсмены ў веласпорце (трэк) і фехтаванні, для якіх дзякуючы арганізацыйным намаганням былі атрыманы дадатковыя квоты на ўдзел — так званыя «дзікія карты». Дарэчы, гаворачы аб неабходнасці такіх крокаў, трэба заўважыць, што, маючы «дзікую карту», спартсмен з Польшчы заваяваў залаты медаль... І калі Людміла Гаражанская на трэку была шостай, то наш адзіны фехтавальшчык Віталь Захараў выбыў у другім баі, а запэўніванні былі дадзены на заваяванне аднаго з высокіх месцаў.

Не выканалі ўзятых абавязацельстваў спартсмены і трэнеры па веласпорту, бадмінтону, веславанню на байдарках і каноэ, грабному слаламу, парруснаму спорту, плаванню, фехтаванню, тэнісу, цяжкай атлетыцы, скачках у ваду, мужчынская каманда па акадэмічнаму веславанню, жаночая зборная па спартыўнай гімнастыцы.

Асаблівую нездаволенасць выклікае няўдалае выступленне шэрага вядучых спартсменаў у апорных відах спорту, тых, прозвішчы якіх вы назвалі вышэй.

**— Ведаю: у Міністэрства спорту і турызму, федэрацый па некаторых відах спорту ёсць праблемы ва ўзаемаадносінах з «зоркамі». Ці не так?**

— Адмоўна адбіўся на падрыхтоўцы да галоўных спаборніцтваў чатырохгоддзя ўдзел шэрага спартсменаў у вялікай колькасці камерцыйных спаборніцтваў.

Зразумелыя імкненне спартсмена, зацікаўленасць трэнера, але гэты працэс павінен быць кіруемым, насіць свядомы характар, абавязкова падначаленым галоўнай мэце — падрыхтоўцы да Алімпіяды. А ў нас часам жаданне адыгрывае галоўную ролю, а ў дапаўненне да яго беспрынцыповасць прыносяць сумныя вынікі. Так здарылася з перспектыўнымі легкаатлетамі Т. Шэўчык, М. Бектагіравай, А. Атрошчанка і іншымі.

Шэраг спартсменаў (і сярод іх вядучыя, такія, як І. Іванкоў, А. Курловіч, С. Смаль), без ведама Федэрацый і Міністэрства спорту і турызму скрытна, напрамую заключаюць кантракты з замежнымі клубамі, губляючы на гэта час, энергію, выступаюць на другарадных спаборніцтвах, якія не ўваходзяць у планы нацыянальнай зборнай. Практыка сусветнага спорту прадугледжвае і такую форму падрыхтоўкі, але толькі ў тым выпадку, калі гэты працэс кіруемы і не супярэчыць задачам нацыянальнай зборнай. Дзяржава, якая затрачвае вялікія сродкі на падрыхтоўку спартсмена, мае права строга спытаць з яго, аж да дыскваліфікацыі і адхілення ад работы асабістага трэнера.

Дырэктарату нацыянальных каманд сумесна з федэрацыямі і кіраўнікамі па фізічнай культуры і спорту неадкладна трэба навесці парадак у гэтым напрамку.

Не ў поўнай меры ўдалося ажыццявіць навуковае абслугоўванне. Практычна пад наглядам знаходзіліся ўсяго 62 кандыдаты на Алімпіяду. Я вяду размову перш за ўсё аб біяхімічным кантролі, а псіхатэрапеўтычным абслугоўваннем былі ахоплены толькі 74 спартсмены.

У спалучэнні з метадычнымі пралікамі, траўмамі, якія таксама з'явіліся вынікам гэтых пралікаў, псіхалагічнай неўраўнаважанасцю, а то і зусім безадказнасцю асобных спартсменаў і трэнераў гэтыя фактары не далі магчымасці нацыянальнай камандзе дасягнуць больш высокіх вынікаў.

**— Урокі Атланты. Сфармулюйце, калі ласка, іх: сцісла, аб'ектыўна, у сувязі з нашымі агульнымі бядотамі жыцця...**

— XXVI летнія Алімпійскія гульні з'явіліся для Рэспублікі Беларусь той лакмусавай паперкай, на якой у поўнай меры праявіліся моцныя і слабыя бакі спартыўнай галіны нашай суверэннай еўрапейскай дзяржавы. А таму ўрокі гэтай нашай першай самастойнай Алімпіяды маюць асаблівую каштоўнасць.

У чым яны заключаюцца?

На думку Міністэрства спорту і турызму, кожны кіраўнік і спецыяліст, якія працуюць у спартыўнай сферы, павінен значна ўзняць планку асабістай патрабавальнасці да сябе і сваіх падначаленых. Канчатковы вынік замыкаецца на кожным з нас. Аб гэтым трэба памятаць заўсёды.

Перавод эканомікі краіны ў новую сферу грамадскіх адносінаў патрабуе і іншага ўзроўню ўзаемаадносінаў паміж міністэрствам і трэнерам, трэнерам і спартсменам. Я маю на ўвазе выкананне індывідуальных планаў і кантрактных абавязацельстваў. Пад кожны з іх закладваецца пэўная фінансавая аснова. Строгі кантроль за выкананнем дагаворных абавязацельстваў павінен стаць законам для ўсіх, а вынікам незахавання кантрактных умоў павінны быць аргвывады.

Алімпіяда паказала, што залішняе паддобрыванне трэнера да тых спартсменаў, якія ўжо прайшлі па «зорнаму» шляху славы, шкодзіць у першую чаргу атлетам. Ведаючы, што ў іх дысцыпліне лаўка запасных вельмі кароткая, яны пераключаюцца на так званую «індывідуальную» сістэму падрыхтоўкі і па сутнасці справы растрачваюць свой патэнцыял. Як паказалі Гульні, не прыносіць жаданага выніку і «сямейны падрад»; я маю на ўвазе тое, калі спартсмена трэніруе муж, брат або сват...

Алімпіяда яшчэ раз прадэманстравала неабходнасць канцэнтрацыі матэрыяльных і арганізацыйных рэсурсаў на канкрэтных спартыўных дысцыплінах. Некаторыя краіны па сутнасці справы «выехалі» на Гульнях на двух-трох відах.

Сёння мы культывуем у ДЮСШ 55 відаў, а на Алімпіядзе атрымалі ўзнагароды ў шасці і яшчэ ў сямі — заліковыя ачкі. Можа і нам неабходна пайсці па шляху шэрага еўрапейскіх краін, якія стварылі трывалы алімпійскі фундамент толькі ў паўтузіне традыцыйных для сябе дысцыплінах?!

Ужо зімовыя Гульні ў Лілехамеры паказалі, што наша ахілесава пята — псіхалагічная падрыхтоўка. Пацвердзіла гэта і Атланта. Нам паранейшаму не хапае да больш высокага месца ўсяго крыху. І гэта «крыху» схавана менавіта ў псіхалогіі і няўменні сабрацца ў экстрэмальнай абстаноўцы.

На жаль, ад гэтага цярпелі ў Атланце менавіта вопытныя спартсмены. А таму пытанне ўмацавання псіхалагічнай устойлівасці атлетаў патрабуе самага дэталёвага і глыбокага падыходу.

Гэта датычыцца і праблем медыцынскага і навуковага забеспячэння, аднаўлення спартсменаў. Яны цяпер у прафесіянальным спорце выйшлі на першы план. Уявіце сабе вочы нашых медыкаў, якія ўбачылі ў Атланце каманду сваіх калег з Германіі ў такім саставе, як амаль уся наша дэлегацыя, ды пры гэтым аснашчаную самай сучаснай апаратурай. Вядома, параўнацца з немцамі ў колькасных адносінах мы не зможам, але зрабіць даступнае — абавязаны. Трэба рэзка ўзняць ролю акадэміі і створанага нядаўна НДІ.

Што датычыць вучэбна-трэніровачных збораў, то яны павінны стаць этапамі падрыхтоўкі спартсменаў, а не аднаўлення іх пасля знаходжання ў месцах пражывання і трэніровак. Трэба паглядзець: ці варта калясіць па Еўропах, калі дома, пад бокам, можна пры жаданні падрыхтавацца лепш і больш прадуктыўна... Шэраг спартсменаў ужо пераканаліся, што нават у Атланце, пры ўсёй грандыёзнасці Гульняў, часам паесці нельга было лепш, чым у тых жа лаяных-пералаяных «Стайках». Прынамсі, у іх хоць пах натуральнага мяса прысутнічае...

Любая сістэма дзейнічае зладжана і без збояў, калі ў ёй цесна змацаваны ўсе звёны. У нас гэтыя звенні — навучальныя ўстановы: ДЮСШ, вучылішчы алімпійскага рэзерву, ШВСМ. Кожнае з іх у гэтай схеме павінна займаць сваё месца: ДЮСШ — шукаць таленавітых дзяцей, вучылішча — дастойна прадстаўляць краіну на юнацкіх спаборніцтвах, ШВСМ — на юніёрскіх. Вяршыня гэтай піраміды — нацыянальная каманда; сапраўдныя прафесіяналы, якіх не трэба ні падганяць, ні накіроўваць, але кіраваць і дапамагаць ім трэба. Гэта функцыя дырэктарата нацыянальных каманд. Нам трэба старанна пабудаваць перадатачны механізм, пры якім бы не губляўся ні адзін больш-менш таленавіты ў спартыўных адносінах чалавек. Мы не можам параўнаць сябе ні з Расіяй, ні з Украінай, дзе магчымасць выбару перавышае нашу адпаведна ў 15 і 5 разоў.

Усе названыя аспекты, якія вынікаюць з Алімпіяды, павінны быць сканцэнтраваны ў Дзяржаўнай праграме развіцця спорту ў краіне. Гэты дакумент, пабудаваны на канкрэтна пралічанай фінансавай аснове, зацверджаны ва ўрадзе або Прэзідэнтам краіны, абавязаны стаць базавым на бліжэйшае чатырохгоддзе. Менавіта ў рамках гэтай праграмы мы зможам убачыць сябе ў выніковай табліцы Алімпіяды 2000 года ў Сіднеі.

***АД РЭДАКЦЫІ. Праблем і пытанняў, закранутых у дыялогу «Урокі Атланты», як бачым, шмат.***

***«Звязда» мае намер павесці пад гэтай рубрыкай грунтоўную размову аб становішчы ў базавых відах спорту рэспублікі.***

# «Наша слова» павінна жыць!

## Адкрыты ліст Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь

Шаноўныя таварышы!

Пасля прыняцця 26.1.1990 г. Закона аб мовах у БССР урад рэспублікі, пры падтрымцы з боку ЦК КПБ, распрацаваў Дзяржаўную праграму ажыццяўлення вышэйназванага закона, паводле якой кожны год выдзяляліся дадатковыя сродкі на выданне навуковай і мастацкай літаратуры, падручнікаў, часопісаў і газет на беларускай мове. Тады ж, кіруючыся законам і мудрасцю, у лік перыядычных выданняў, якія карыстаюцца дзяржаўнай датацыяй, урад уключыў і тыднёвік «Наша слова» — орган Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Гэта было вельмі справядлівае рашэнне, бо «Наша слова», пры належнай да яго ўвазе, можа істотна садзейнічаць прапагандзе беларускай мовы, пашырэнню яе ў грамадскім ужытку, выхаванню культуры мовы, засваенню асаблівасцей граматыкі і правапісу, агулам кажучы — захаванню і ўзбагачэнню мовы як найвялікшага і найкаштоўнейшага скарба нацыі.

ТБМ было ўдзячнае ўраду, які лічыў сваім абавязкам клапаціцца не толькі пра эканоміку і сацыяльную сферу, але і пра духоўны пажытак для народа, пра нацыянальную культуру (мова — першаэлемент культуры!). Праўда, дзяржаўная падтрымка «Нашага слова» была досыць мізэрнай — таму: мінімальны штат супрацоўнікаў, бязбожна нізкая зарплата, сімвалічны ганарар, адсутнасць памяшкання, рэдакцыйна-выдавецкага абсталявання і г. д. Кіраўніцтва ТБМ звярталася да ўрада рэспублікі з просьбай паставіцца больш зычліва і да «Нашага слова», і да самога Таварыства, — у прыватнасці, узяць апошняе пад дзяржаўную апеку, паколькі яно створана дзеля мовы, клапоціцца аб зберажэнні і развіцці мовы. На жаль, нам далі зразумець, што гэтай самай большай зычлівасці з боку ўрада не будзе.

Цяпер Дзяржаўны камітэт па друку намерыўся «Наша слова» наогул з датацыі зняць, што азначае толькі адно: асуджэнне тыднёвіка на смерць. Выданне яго тут жа спыніцца. Гэта адназначна. Само ТБМ грошай не мае і не можа мець, бо на прапагандзе беларускай мовы, як вядома, яшчэ ніхто не разжыўся; на любові да беларушчыны зараблялі Салаўкі, Калыму, Курапаты, зараблялі выгнанне з працы, знявагу і абразу, інфаркт, але грошы — ніколі... Каб ліквідацыя «Нашага слова» выглядала яшчэ і прыгожа — прыдумалі банальна няхітры ход: давайце, маўляў, некалькі беларускіх выданняў аб'яднаем у адно. Зробім адно, але большае па аб'ёму, з большым штатам, з большым ганарарам і г. д. Дзеля чаго трэба ліквідоўваць «Наша слова» — тлумачэнне даецца простае: няма сродкаў; каб зэканоміць фінансы, даводзіцца нейкія выданні скарачаць...

Шаноўныя кіраўнікі дзяржавы! Вы ведаеце, колькі вы зэканоміце на ліквідацыі «Нашага слова»? Ведаеце. Вядома ж, гэта істотна паправіць цяжкае фінансавае становішча краіны. І што ж гэта за пракляцце такое над Беларуссю: як толькі трэба шукаць, на чым зэканоміць, — абавязкова вочы ўпіраюцца ў беларушчыну: ці ў беларускую школу (клас), ці ў беларускую кнігу, ці ў беларускую газету... А чаму б не зэканоміць на выданні рускамоўных газет у Беларусі, якіх непараўнана больш і якія садзейнічаюць русіфікацыі і асіміляцыі карэннага насельніцтва рэспублікі? Можа, іх не трэба ажно столькі — гэтых антыбеларускіх газет? Можа, яны, пры такіх вялізных тыражах, справяцца з «высакароднай місіяй» і будучы ў трохі меншай колькасці? І чаму ім створаны такія ўмовы працы, чаму ў іх такія штаты, такія зарплаты, такія ганарары, якія «Нашаму слову» і не сніліся?

Думаю, няма патрэбы тут даказваць фактамі і лічбамі, як змяніліся адносіны да беларускай мовы ў Беларусі пасля рэферэндуму 1995 г. Жахліва змяніліся! Пайшоў не проста адкат назад — пачалося франтальнае выгнанне і выкарчоўванне беларускай мовы з грамадскага ўжытку. Пачалося масавае адраканне жыхароў краіны ад сваёй дзяржаўнай мовы. Усё, што было дасягнута за чатыры гады ў справе адраджэння мовы народа — бязлітасна скасоўваецца, руйнуецца, вынішчаецца. Ніякага раўнапраўнага становішча дзвюх моў — беларускай і рускай — няма. Што яго і не будзе — ініцыятары рэферэндуму выдатна ведалі гэта наперад. Ведалі, што робяць, на што і ў імя чаго ідуць. Зазгляньце ў дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы — нідзе не пачуеце ніводнага беларускага слова! Прайдзіце па школах, тэхнікумах і ВНУ — зноў тая ж самая суцэльная русіфікацыя беларускай моладзі, як і дваццаць ці трыццаць гадоў назад. Паглядзіце на прылаўкі кнігарань і газетных кіёскаў: адна беларуская кніга на тысячу рускіх, адна беларуская газета і адзін беларускі часопіс на сотню рускіх! Паслухайце гэтак званае нацыянальнае радыё і тэлебачанне — на дзесяць-пятнаццаць рускіх перадач адна беларуская, ды і тая з такой трасянкай у вуснах дыктараў, якая не гучала там нават у самыя горшыя для Беларусі часы. І ў такіх умовах урад ліквідуе адзіную ў дзяржаве газету, спецыяльна адрасаваную тым, хто любіць, шануе і хоча лепш ведаць беларускую мову.

Шаноўныя ўрадоўцы! Калі вы любіце сваю Маці-Беларусь (а я не сумняваюся ў гэтым), калі ў вас ёсць пачуццё абавязку перад Бацькаўшчынай (а яно павінна быць), — зрабіце ўсё, што ад вас залежыць, каб не гінула і не вынішчалася ў Беларусі беларуская мова. Не дайце заняпасці беларускай школе, беларускаму кнігадрукаванню, беларускім газетам і часопісам, без якіх спыніцца развіццё нацыянальнай культуры і духоўнасці. І ў прыватнасці, акажыце тыднёвіку «Наша слова» такую матэрыяльна-фінансавую падтрымку, якую вы аказваеце афіцыйным дзяржаўным газетам, — помнячы, што ва ўсіх краінах свету, дзе людзі паважаюць саміх сябе, клопат пра мову ёсць у найвышэйшай ступені клопат дзяржаўны.

**З павагай**

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

***Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь ЛУКАШЭНКУ А. Р.***
***Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ШАРЭЦКАМУ С. Г.***

Паважаныя Аляксандр Рыгоравіч, Сямён Георгіевіч!

Федэрацыя прафсаюзаў выказвае заклапочанасць у сувязі з узмацненнем процістаяння ў грамадстве, выкліканага ўнясеннем змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон Рэспублікі Беларусь і правядзеннем рэспубліканскага рэферэндуму.

Пераканаrны, што пры ўсёй складанасці і вастрыні ўзнікшых праблем, іх неабходна вырашаць на кампраміснай аснове. У інтарэсах захавання грамадзянскага міру і стабільнасці ў грамадстве Прэзідыум Савета ФПБ звяртаецца да Вас з прапановай стварыць пагаджальную камісію з удзелам прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, асноўных палітычных партый, уключаючы Федэрацыю прафсаюзаў. Асноўная мэта: узгадніць інтарэсы і пазіцыі бакоў, выпрацаваць узаемапрымальны варыянт змяненняў і дапаўненняў, уносімых у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

Вельмі важна пры гэтым як мага больш поўна ўлічыць думкі і прапановы працоўных калектываў, насельніцтва. Прадугледзець і ўзмацненне сацыяльных гарантый і правоў грамадзян, канстытуцыйна-прававое забеспячэнне адносінаў сацыяльнага партнёрства дзяржаўных органаў, аб'яднанняў наймальнікаў і прафсаюзаў, захаванне інстытута прэзідэнцтва і надзяленне Прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы неабходнымі паўнамоцтвамі, пры адначасовым павышэнні ролі Кабінета Міністраў, а таксама забеспячэнне належнага статусу Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і іншых канстытуцыйных органаў.

Такі падыход садзейнічаў бы стабілізацыі становішча ў грамадстве, стварыў бы аснову для ўзаемадзеяння ўсіх галін улады ў пошуку шляхоў выхаду з сацыяльна-эканамічнага крызісу.

*Па даручэнню Прэзідыума Савета ФПБ*
**старшыня Федэрацыі прафсаюзаў, дэпутат У. І. ГАНЧАРЫК.**

# ПАСТАНОВА
## Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню

У адпаведнасці з артыкуламі 74 і 83 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Правесці ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 года рэспубліканскі рэферэндум.

2. Уключыць у бюлетэнь для тайнага галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступныя пытанні:

а) якія ініцыіруюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь:

2.1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.

*«За» або «супраць»?*

2.2. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам.

*«За» або «супраць»?*

2.3. Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?

*«За» або «супраць»?*

2.4. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь?

*«За» або «супраць»?*

б) якія ініцыіруюцца дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

2.5. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.

*«За» або «супраць»?*

2.6. Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?

*«За» або «супраць»?*

2.7. Ці згодны Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца публічна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

*«За» або «супраць»?*

3. У адпаведнасці з артыкуламі 1, 14, 39 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» пытанні, прадугледжаныя пунктамі 2.1, 2.2, 2.5, і 2.6 гэтай Пастановы, выносяцца на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога з'яўляюцца канчатковымі і маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а пытанні, прадугледжаныя пунктамі 2.3, 2.4 і 2.7, — на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога маюць рэкамендацыйны характар.

4. Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў забяспечыць падрыхтоўку і правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму.

5. Абласным, Мінскаму гарадскому, раённым, гарадскім Саветам дэпутатаў да 24 кастрычніка 1996 года ўтварыць абласныя, Мінскую гарадскую, раённыя, гарадскія (у гарадах абласнога падпарадкавання), раённыя ў гарадах камісіі па рэферэндуму.

Рэкамендаваць гарадскім (у гарадах з раённым дзяленнем) Саветам дэпутатаў аказаць садзейнічанне ў стварэнні раённых у гарадах камісій па рэферэндуму ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь».

6. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым Саветам дэпутатаў, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць у адпаведнасці з заканадаўствам аб рэферэндуме гарантыі свабоднага волевыяўлення грамадзян па пытаннях, якія выносяцца на рэферэндум, выключыўшы магчымасць аказання на грамадзян любога неправамернага ўздзеяння, што перашкаджала б свабоднаму ажыццяўленню іх права на ўдзел у рэферэндуме.

7. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у трохдзённы тэрмін вырашыць пытанні матэрыяльнага і фінансавага забеспячэння правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, абслугоўвання яго прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі транспарту і сувязі.

8. Прапанаваць Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць у ходзе арганізацыі і правядзення рэспубліканскага рэферэндуму захаванне законнасці і правапарадку.

9. Рэкамендаваць сродкам масавай інфармацыі арганізаваць усебаковае і аб'ектыўнае растлумачэнне пытанняў, якія выносяцца на рэспубліканскі рэферэндум, рэгулярна асвятляць ход падрыхтоўкі і правядзення рэферэндуму.

10. Гэта Пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ.**
6 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 578-XIII

*НАРОДНЫ КАЛЯНДАР*

# Калінавік пачынае бабіна лета

**11 (29-га па старому стылю)** верасня у народзе святкавалі Калінавік (Іван Калінавік, Ян Галавасек, Іван Крываўнік, Іван Посны, Галаварэз, Суянцель). Назва гэтага свята замацавалася ад царкоўнага наймення дня адсячэння галавы Івана Прадцечы, Івана Хрысціцеля.

У народзе за ім усталяваліся бытавыя прыметы і павер'і. Лічылася, што ў гэты дзень нельга рэзаць, сячы і нават есці круглае. Таму, напрыклад, хлеб ламалі рукамі. На Тураўшчыне, закончыўшы некаторыя палявыя работы, адсякалі старому пеўню галаву і гатавалі вячэру. Певень лічыўся старажытным ахвяраваннем у розных культаў. А ў Рэчыцкім павеце не мылі галаву, каб не захварэць на каўтун.

На Магілёўшчыне лічылі, што калі пасеяць у гэты дзень жыта, будзе ўмалотны ўраджай. На Усходнім Палессі стараліся пасеяць жыта ў адзін дзень, а вечарам выходзілі дзяўчаты спяваць песні і плесці вянкі. На Калінавіка збіралі ягады каліны і журавіны, якія выкарыстоўвалі потым ад галаўнога болю.

Наставала пара сельскагаспадарчых работ, і дождж быў ужо не патрэбен. У народзе гаварылі: «Да Яна прасіце, дзеткі, дажджу, а па Яне я й сам упрашу».

З Калінавіка да Цудаў, Багача ці Пакроваў (у розных рэгіёнах па-рознаму) гэтая пара называлася бабіным летам — пачатак жаночых сельскагаспадарчых работ. У гэты час спяваліся песні, галоўнай тэмай якіх было замужжа. Выклікана гэта было тым, што пасля Пакроваў пачыналіся сялянскія вяселлі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ШАШКІ

**Эцюд Якава ГОРДЗІНА**




**Белыя:** a1, d2, e5 (3). **Чорныя:** a5, b6, g7 (3). **Белыя пачынаюць і выйграюць.**

Па традыцыі назавём у наступных шашачных выпусках прозвішчы аматараў шашак, якія раней за іншых дашлюць свае рашэнні.

**Праверце рашэнні!**

**Згуляйце за белых.** У эцюда Д. Калінскага з мінулага шашачнага выпуску такое рашэнне: 1. ef6 ab6 2. fg7 bc5 3. gh 8 cb4 4. hg5 bc7 5. ha1 (у белых выбар з дзевяці хадоў, але гэты — адзіны, які вядзе да поспеху) 5. ... ba3 6. gf6! cd6 7. ac3! Далей ужо ўсё проста.

# ВЫШУК





АКВ УУС на транспарце МУС РБ адшукваюцца Азарын Алег Яўгенавіч, 1976 года нараджэння, ураджэнец г. Віцебска, і Горбат Міхаіл Уладзіміравіч, 1977 года нараджэння, ураджэнец Гомельскай вобласці Жыткавіцкага раёна, в. Паласцевічы.

Прыметы Азарына А. Я. — на выгляд 20 гадоў, рост 170—173 см, каржакаваты, валасы русыя, кароткія.

Прыметы Горбата М. У. — на выгляд 20 гадоў, рост 170 см, каржакаваты, валасы русыя, кароткія, на носе ёсць шрам.

***Грамадзян, якія ведаюць месцазнаходжанне адшукваемых, просім паведаміць па тэлефонах у г. Мінску: 296-36-37, 296-46-41, 222-96-20 ці па 02 у бліжэйшы аддзел міліцыі.***

## СОНЦА *СЁННЯ*

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| **Мінск –** | **6.33** | **19.40** | **13.07** |
| **Віцебск –** | **6.21** | **19.32** | **13.11** |
| **Магілёў –** | **6.22** | **19.29** | **13.07** |
| **Гомель –** | **6.22** | **19.23** | **13.01** |
| **Гродна –** | **6.50** | **19.53** | **13.03** |
| **Брэст –** | **6.50** | **19.54** | **13.04** |

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Іава, Феадосія, Лаўрэнція, Фёдара, Афанасія, Паўла, Грыгорыя, Анатолія, Ганны.**
**К. Бульгерыі, Мсціславы.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы будзе воблачна з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве і Гомелі — 13—15, Гродне і Брэсце — 15—17 градусаў.

У наступныя двое сутак: 11-га — па заходняй палавіне, 12-га — па большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература паветра ўначы — 6—11, удзень — 10—15; 11-га па ўсходу — да 17 градусаў цяпла.

# ВІЦЭ-СПІКЕР ЛІЧЫЦЬ, ШТО РАШЭННЕ ПАРЛАМЕНТА СУПЯРЭЧЫЦЬ КАНСТЫТУЦЫІ

**Каменціруючы журналістам рашэнне парламентарыяў аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада з уключэннем у бюлетэнь для тайнага галасавання не толькі чатырох пытанняў, якія ініцыіраваў Прэзідэнт Беларусі, а таксама яшчэ трох, прапанаваных дэпутатамі Вярхоўнага Савета, віцэ-спікер парламента Юрый Малумаў адзначыў, што яно супярэчыць Канстытуцыі.**

«Згодна з дзеючым заканадаўствам, дэпутаты не мелі права дапаўняць прапановы Прэзідэнта. Семдзесят народных выбраннікаў маглі толькі ініцыіраваць альтэрнатыўны рэферэндум з вынясеннем на яго сваіх пытанняў», — лічыць Юрый Малумаў. З яго пункту гледжання, у вырашэнні Вярхоўным Саветам пытання, звязанага з правядзеннем рэферэндуму, у тым ліку і ў тэрміновай карэкціроўцы парламентарыямі Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь», больш палітыкі, прадыктаванай процістаяннем кіраўніка дзяржавы і парламента, чым юрыспрудэнцыі. Юрый Малумаў не выключае магчымасці вырашэння ўзнікшых праблем з рэферэндумам без звароту ў Канстытуцыйны суд.

Што датычыць назначанай Вярхоўным Саветам даты правядзення рэферэндуму — 24 лістапада, сумешчанай з давыбарамі дэпутатаў, то віцэ-спікер лічыць больш мэтазгодным назначыць плебісцыт на 7 лістапада. Ён адзначыў, што, у залежнасці ад вынікаў народнага галасавання, лагічна вярнуцца да разгляду пытання аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў. Так, у выпадку падтрымкі прэзідэнцкай Канстытуцыі, заўважыў Юрый Малумаў, аўтаматычна адпала б пытанне аб давыбарах. На думку віцэ-спікера, палітычныя апаненты Прэзідэнта, «левыя» і «правыя», аб'яднаўшыся па чыста кан'юнктурных меркаваннях, практыкуюць паўтарэнне «хадоў» кіраўніка дзяржавы, што, з яго пункту гледжання, не зусім этычна. Паўтарэннем «хадоў» таксама назваў Юрый Малумаў ініцыятыву сацыял-дэмакратаў правесці з'езд дэпутатаў мясцовых Саветаў усіх узроўняў паралельна з усебеларускім народным сходам.

**БЕЛТА.**

# ВУЛКАНЫ НА БЕЛАРУСІ?

**Якім бы дзіўным гэта ні здавалася, але пытанне, вынесенае ў загаловак, — гэта не жарт і нават не алегорыя. За некалькі апошніх тысячагоддзяў у нас усталявалася ўяўленне аб Беларусі, як аб зямлі спакойнай, без усякіх узрушэнняў, якая не ведае колькі-небудзь сур'ёзных прыродных катаклізмаў, калі не лічыць вельмі рэдкіх і слабых падземных штуршкоў, — сейсмічнага рэха маладых і рухомых Карпат. Мала хто ведае, што адносна нямнога, па геалагічных, канешне ж, мерках, сплыло вады з тых часоў, як хмары вулканічнага попелу ўздымаліся над вогненнымі лававымі патокамі і на зямлі Беларусі.**

Безумоўна, гаворка перш за ўсё ідзе аб такой тэктанічнай структуры, як Прыпяцкі прагіб. Што гэта? Чым цікавая гісторыя яго ўзнікнення? Што ён можа даць нам сёння?

Прыпяцкі прагіб — старадаўняя геалагічная структура на паўднёвым усходзе Беларусі. Яго паўднёвая мяжа практычна супадае з паўднёвай мяжой рэспублікі, а паўночная праходзіць па лініі Клецк—Слуцк—Глуск—Парычы—Стрэшын, на тэрыторыі прагіба знаходзяцца Рэчыца і Светлагорск, Салігорск і Тураў, Васілевічы і Мазыр, Калінкавічы і Петрыкаў. Прагіб, які амаль ніяк не выяўляецца на паверхні, быў адкрыты толькі ў 30-х гадах нашага стагоддзя. Увагу даследчыкаў спярша прыцягнуў той факт, што магутнасць асадкавага чахла, а значыць — і глыбіня залягання крысталічнага грунту на паўднёвым усходзе Беларусі дасягае 5-6 кіламетраў (супраць 100—200 м у сярэднім па рэспубліцы!). У сярэдзіне дэвонскага перыяду, які пачаўся каля 310 млн. гадоў таму і працягваўся каля 35 млн. гадоў, магутныя глыбінныя разломы раскалолі тоўшчу зямной кары на некалькі гіганцкіх глыб, і яны пад уласным цяжарам пачалі як бы «правальвацца» ў пластычную мантыю Зямлі і да канца дэвона апусціліся да 4-5, а месцамі нават 6 кіламетраў. Як вядома, прырода не церпіць пустаты. У паніжэнні, якія ўтварыліся, хлынулі салёныя воды старадаўніх паўночных мораў, — утварылася дэвонскае Палескае мора на Беларусі. Аднак, як кажуць, мора морам, а пры чым жа тут вулканы?

Значэнне апошніх для Беларусі вельмі вялікае, мы адчуваем яго да гэтага дня і прычым... на смак. Калі б не прарвалася гарачая магма на паверхню ў далёкім палеазоі, пакінула б дагістарычнае Беларускае мора пасля сябе хутчэй за ўсё толькі тоўшчы шэрых даламітаў уперамешку з бурымі акамянелымі глінамі. У сярэдзіне позняга дэвону, г. зн. каля 270 млн. гадоў таму, адносна мірнае працяканне геалагічных працэсаў было парушана аглушальным рокатам вывергнутага падземнага агню. Многія тысячы тон гарачай лавы выліліся з неспакойных палескіх нетраў. Пад воднай паверхняй узніклі ланцужкі астравоў — вяршынь падводных вулканічных конусаў. Вядомы і дакладны адрас «беларускай Камчаткі»: яна размяшчалася на тэрыторыі сучасных Брагінскага і Лоеўскага раёнаў.

Усё апісанае адбывалася на фоне сухога і гарачага клімату, аналагічнага сучаснаму трапічнаму (характэрнаму, напрыклад, для раёна Чырвонага мора). У водах старадаўняга дэвонскага мора было мноства розных малюскаў, першых паўзуноў, па мелкаводдзю на поўначы і захадзе яно было акружана ланцугом каралавых рыфаў. Магутныя праявы вулканізму на паўночным усходзе прывялі да ўзнікнення своеасаблівай прыроднай плаціны, якая перакрывала доступ вады з поўначы. Сухі гарачы клімат садзейнічаў актыўнаму выпарэнню з паверхні мора, і гэта прывяло да вялікай канцэнтрацыі солі. Соль стала крышталізавацца і асядаць на дно. У найбольш глыбокіх месцах у асадак выпадала кухонная соль (мінерал галіт), а па мелкаводдзю — калійная (сільвін). Такі ж працэс адбываўся на працягу многіх тысячагоддзяў і прывёў у выніку да назапашвання ў Прыпяцкім прагібе тоўшчы солі магутнасцю да 4000 метраў! Такім чынам, менавіта вулканам, якія перагарадзілі шлях у Палескае мора больш прэснай вадзе з поўначы ў канцы дэвонскага перыяду, і абавязаны мы багатымі запасамі калійнай і кухоннай солі на Беларусі. Аднак не толькі залежы солі пакінула нам у спадчыну старадаўняе палеазойскае мора. У тоўшчах яго адкладанняў схавана і беларуская нафта, і гаручыя сланцы, і гіпс, і гаючыя расолы...

**Андрэй ЗАХАРЭНКА.**

# І ПАДОРАЦЬ ГЕНЫ ЧАЛАВЕКУ КРЫЛЫ?

Да гэтага часу вучоным не ўдалося знайсці адказ, піша часопіс «ЮС н'юс энд уорлд рыпорт» (ЗША), якім чынам з бясформеннага камячка праз дзевяць месяцаў нараджаецца жыццё, але яны ўсё бліжэй да разгадкі. Закладзеная ўнутр праграма дакладна вызначае этапы станаўлення будучага чалавека, дае ўказанне, калі павінны афарміцца і якімі павінны быць рысы твару, колер вачэй, колькасць радзімых плям і склад цела.

Толькі за апошнія паўгода даследчыкам з Гарвардскага універсітэта ўдалося разабрацца з генамі, якія адказваюць за развіццё галавы і вачэй, задаюць размеркаванне органаў у правай і левай палове нашага цела. Ідзе сапраўднае паляванне за «генеральнымі кіруючымі» генамі, якія ўтрымліваюць у сабе поўны кампазіцыйны праект будучага «хома сапіенс».

У сакавіку мінулага года швейцарскія вучоныя абагацілі звычайную муху генам, які загадвае вачамі (існуе верагоднасць, што ён і адносіцца да ключавой групы генаў — «галоўных архітэктараў»), пасля чаго ў яе выявіліся своеасаблівыя адхіленні ад устаноўленага ўзору. А менавіта: у мухі выраслі вочы ў самых нечаканых месцах, як, напрыклад, на нагах, на крылах і нават на вусіках-антэнах.

Гэты ген, які сам па сабе дае простую каманду эмбрыёну абзавесціся вачамі, сустракаецца таксама ў мышэй і людзей.

Гэтай жа вясной сталі вядомыя вынікі эксперыментаў амерыканскіх спецыялістаў з Тэхаса, якія выдзелілі ген, названы імі «Лім-1». Яны ўзялі эмбрыён мышы і пазбавілі яго гэтага гена, а ў выніку з'явілася на свет нешта не зусім зразумелае — з цельцам, ножкамі, хвосцікам, але без галавы. З чаго амерыканцы зрабілі выснову: «Лім-1» адказвае за гэтую частку арганізма.

Вучоныя ўпэўнены, што іх знаходкі дазволяць многае зразумець у механізме сталення чалавечага эмбрыёна. Адначасова яны аднаўляюць у рэтраспектыве шлях, які прайшла жывая прырода праз церні эвалюцыі. Скажам, выявілася, што ў матылька і мухі крылы маюць у аснове адзін і той жа састаў генаў, ды толькі размешчаны яны ў розных кампазіцыях. Падобна, стварэнне новых відаў і падвідаў на працягу стагоддзяў залежала ад таго, у якой «мізансцэне» размесцяцца «генеральныя кіруючыя» гены.

Зараджэнне жыцця, нягледзячы на інтэнсіўныя пошукі і эксперыменты, застаецца такім жа цудатворствам, як і раней, але вучоныя ўпэўнены, што яны побач з адгадкай, ад якой, хочацца спадзявацца, выйграюць усе і ніхто не прайграе.

# КОЛЬКІ ГАДОЎ ВЫ ПРАЖЫВЯЦЕ?

**Адказ на гэта пытанне, як мяркуюць некаторыя амерыканскія медыкі і кампаніі па страхаванню жыцця, павінен даць тэст, ці своеасаблівая віктарына, прыведзеная ніжэй. У ёй ступень рызыкі, якая ставіць жыццё і здароўе чалавека пад уздзеянне сучаснага навакольнага асяроддзя, стрэсаў, паводзінскіх і спадчынных фактараў, вымяраецца прасцейшымі арыфметычнымі вылічэннямі. Як бачна з пытанняў віктарыны (ды гэта ўжо агульнавядома), наша жыццё скарачаюць такія шкодныя звычкі, як алкаголь, курэнне, а прадаўжаюць — рэгулярныя заняткі спортам.**

**Такім чынам, колькі гадоў вы пражывяце?**

**Пачніце з лічбы 72.**

Калі вы мужчына, адыміце ад яе 3.

Калі жанчына, прыбаўце 4.

Калі вы жывяце ў горадзе з насельніцтвам больш за 2 мільёны, адыміце 2.

Калі ў сельскай мясцовасці ці невялікім гарадку — прыбаўце 2.

Калі хто-небудзь з вашых дзядуляў і бабуль пражыў да 85 гадоў, прыбаўце 2.

Калі ўсе чацвёра дзядуляў і бабуль пражылі да 80, прыбаўце 6.

Калі хто-небудзь з вашых бацькоў памёр ад інсульту ці сардэчнага прыступу ва ўзросце да 50 гадоў, адыміце 4.

Калі хто-небудзь з вашых бацькоў, брат ці сястра ва ўзросце да 50 гадоў ужо мелі захворванні на рак, дыябет ці парок сэрца, адыміце 3.

Калі вы маеце вышэйшую адукацыю, прыбаўце 3.

Калі вам 65 ці больш і вы яшчэ працуеце, прыбаўце 3.

Калі вы жывяце з мужам ці жонкай, прыбаўце 5. Калі не, адыміце 1 за кожныя дзесяць гадоў халасцяцкага жыцця з 25-гадовага ўзросту.

Калі ў вас сядзячая праца, адыміце 3.

Калі цяжкая фізічная — прыбаўце 3.

Калі вы займаецеся спортам пяць разоў на тыдзень прынамсі па паўгадзіны, прыбаўце 4. Два ці тры разы на тыдзень — прыбаўце 2.

Вы спіце больш як дзесяць гадзін кожныя суткі? Адыміце 4.

Вы агрэсіўны, засяроджаны, лёгка выходзіце з сябе? Адыміце 3.

Вы спакойны, лагодны чалавек. Прыбаўце 3.

Калі вы водзіце аўтамабіль, ці былі ў вас пакаранні за перавышэнне скорасці ў бягучым годзе? Адыміце 1.

Вы шчаслівы? Прыбаўце 1. Нешчаслівы? Адыміце 2.

Выкурваеце больш за два пачкі ў дзень? Адыміце 8. Ад аднаго да двух пачкаў? Адыміце 6. Паўпачка—адзін пачак? Адыміце 3.

Калі вы ўжываеце 300 грамаў спіртнога за тыдзень, адыміце 1.

Ваша залішняя вага складае 20 кг ці больш? Адыміце 8. Ад 13 да 20 кг? Адыміце 4. Ад 4 да 13 кг? Адыміце 2.

Калі вы мужчына ва ўзросце старэй за 40 гадоў і праходзіце штогод медыцынскі агляд, прыбаўце 2.

Калі вы жанчына і раз у год бываеце ў гінеколага, прыбаўце 2.

Калі вам ад 30 да 40 гадоў, прыбаўце 2. Ад 40 да 50 — прыбаўце 3. Ад 50 да 70 — прыбаўце 4. Больш за 70 — прыбаўце 5.

Паслядоўна праведзеныя арыфметычныя дзеянні дадуць у выніку мяркуемую працягласць вашага жыцця.

# МОЖА Ў ПАНЯДЗЕЛАК ВАС МАТУЛЯ НАРАДЗІЛА?

**Паводле народнага павер'я, панядзелак — дзень цяжкі. Важных спраў у гэты дзень не пачынаюць. І нават нарадзіцца — не пажадана. А ці ведаеце вы, у які дзень тыдня самі з'явіліся на свет Божы? У які дзень тыдня адбылася тая ці іншая падзея?**

Аказваецца, даведацца аб гэтым нящяжка, калі выкарыстаць прыведзеную ніжэй методыку вылічэння.

Парадкавы нумар дня тыдня любой каляндарнай даты старога ці новага стылю роўны астатку ад дзялення на 7 сумы чатырох лічбаў: К + М + Г + В, дзе К — каляндарнае чысло месяца, М — каэфіцыент месяца, Г — каэфіцыент года і В — каэфіцыент стагоддзя.

Парадкавы нумар дзён тыдня: панядзелак — 1, аўторак — 2, серада — 3, чацвер — 4, пятніца — 5, субота — 6, нядзеля — 0.

Каэфіцыент месяца М: студзень звычайнага года — 4, высакоснага — 3; люты звычайнага года — 0, высакоснага — 6; сакавік — 0, красавік — 3, май — 5, чэрвень — 1, ліпень — 3, жнівень — 6, верасень — 2, кастрычнік — 4, лістапад — 0, снежань — 2.

Каэфіцыент года Г вылічаецца па формуле Г = п + (п:4), дзе п — нумар года ў стагоддзі; (п:4) — цэлая частка ад дзялення п на 4.

Заўвага. Для гадоў стагоддзя (якія заканчваюцца двума нулямі), высакосных Г = 6, звычайных (па новаму стылю гады 1700, 1800, 1900, 2100 і г. д.) — Г = 5.

Каэфіцыент стагоддзя В. Стары стыль: стагоддзі I, VIII і XV — В = 0; стагоддзі II, IX і XVI — В = 6; стагоддзі III, X і XVII — В = 5; стагоддзі IV, XI і XVIII — В = 4; стагоддзі V, XII і XIX — В = 3; стагоддзі VI, XIII і XX — В = 2; стагоддзі VII і XIV — В = 1. Новы стыль: стагоддзі XVI і XX — В = 3; стагоддзі XVII і XXI — В = 2; стагоддзі XVIII і XXII — В = 0; стагоддзі XIX і XXIII — В = 5.

**Прыклады:**

9 мая 1945 года (новы стыль) — Дзень Перамогі. К = 9, М = 5, Г = 45 + (45 : 4) = 56, В = 3; К + М + Г + В = 9 + 5 + 56 + 3 = 73. Астатак ад дзялення лічбы 73 на 7 роўны 3. Такім чынам, 9 мая 1945 года — СЕРАДА.

9 студзеня 1905 года (стары стыль) — «Крывавая нядзеля». К = 9, М + 4, Г = 5 + (5 : 4) = 6, В = 2; К + М + Г + В = 9 + 4 + 6 + 2 = 21. Астатак ад дзялення чысла 21 на 7 роўны 0. Такім чынам, 9 студзеня 1905 года — нядзеля.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 10 верасня

### Беларускае тэлебачанне

**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Дом для леапарда». Мультфільм.
**15.50** Тэлебачанне — школе. Геаграфія Беларусі. 9 клас. Цэнтральная Беларусь як прыродна-гаспадарчы раён.
**16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.45** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Гуманітарная дапамога дзецям чарнобыльскай зоны.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Навагрудак». Чытаючы Міцкевіча». Кінанарыс.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Дзяжурная аптэка». 7-я серыя.
**20.05** «Востры вугал». Прававая праграма па пісьмах гледачоў.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Хроніка жніва-96.
**22.15** Ларыса Удавічэнка і Аляксандра Якаўлева ў фільме «Якая дзіўная гульня».
**23.55** Рэспубліканскія спаборніцтвы па гарадошнаму спорту на прыз Беларускага тэлебачання.
**0.25** Навіны.

### ГРТ

**14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.55** Мультытролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы.
**20.00** Час.
**20.40** Георгій Юматаў і Мікалай Кручкоў у фільме «Жорсткасць».
**22.25** Кубак свету «Майстар-раллі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар.
**22.40** Навіны.
**22.50** Музычная праграма «50х50».
**23.40** «Міраў, Навіцкі і іншыя».

### Расія

**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**16.20** Каляндар.
**16.30** «Чэленджэрс». Серыял.
**17.00** Залежыць ад цябе.
**17.15** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.25** Дзённік Кубка свету па хакею.
**17.55** Надзвычайны канал.
**18.25** «Губернскія ведамасці: асенні марафон».
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.25** Раз у тыдзень.
**20.55** Надвор'е.
**21.00** А. Сафонава ў фільме «Мадэмуазель «О».
**22.45** Рэк-тайм.
**23.20** Тавары — поштай.
**23.30—0.25** Гукавая дарожка.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.10, 23.05** Інфарм ТБ.
**15.15** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.
**16.10** Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
**16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Стыль жыцця.
**17.05** Дзецям пра звcovanyат.
**17.55** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** Тальяці — горад маладых.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Жыццё Кліма Самгіна». 5-я серыя.
**22.25—23.12** Хакей. СКА — «Нафтахімік» (Ніжнекамск).

### НТБ

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за выжыванне».
**17.30** Жаночыя гісторыі. «Міс Роз Уайт» (ЗША).
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Футбол. «Тарпеда» (Масква) — «Дынама» (Тбілісі).
**21.35** Фестываль міні-серыялаў «Млыны багоў». 2-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Вялікі рынг.
**23.50** Меламанія. Дэвід Боуі.



*Вядучы старонкі — Васіль АРОН.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намесніка галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 5091.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12